



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3019) Год LIX | Беласток, 23 сакавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Супраць будовы ветравых электрастанцый

**У Чыжоўскай гміне ўзняўся пратэст супраць будовы ветравых электрастанцый, якія маюць быць размешчаны, між іншым, непадалёк ад вёсак Чыжы і Збуч. Планы будовы ветравых станцый, якія мелі б пастаўляць электраэнергію, існуюць ужо некалькі гадоў, але для іх ажыццяўлення трэба шмат дазволаў і працэс іх атрымання працягваецца. У Чыжах паявілася інфармацыя, што з некаторымі жыхарамі падпісаны ўжо папярэднія дамовы на арэнду ўчасткаў пад ветракі і гэта было штуршком для ўзнікнення мясцовага супраціву. Пад 150 жыхароў, у галоўным Чыжоў, але таксама і суседніх сёлаў, падпісалася пад «Спіскам жыхароў Чыжоўскай гміны праціўных будове ветравых турбін на тэрыторыі гміны».**


Справу будовы ветравых электрастанцый чыжавяне вынеслі на вясковы сход. Першы справа Яўген Кавальчук.

— Я і мая жонка звярнуліся ў гмінную ўстанову з запытам у справе будовы ветравых турбін і атрымалі адказы, з якіх паўстаў вобраз запланаванай інвестыцыі. Непадалёк ад Чыжоў, у напрамку Ракавіч і побач Збуча суполка «Windprojekt Sp. z o.o. S.K.A.» з Варшавы прадугледжвае будову Парка ветравых электрастанцый «Чыжы 0344» — 11 велізарных ветракоў, да 5 мегаватаў магутнасці, вышынёй да 210 метраў. Я сёння пытаў, якой вышыні наша царква ў Чыжах і мне сказалі, што больш за 30 метраў. У такім выпадку ветравыя турбіны могуць быць нават у 6 разоў вышэйшыя за нашую царкву. Людзям нават складана ўявіць такую вышыню турбін, якія стануць у адлегласці меншай чым кіламетр ад Чыжоў. Мы ў прынцыпе не супраць выкарыстання аднаўляльнай энергіі і будове ветравых электрастанцый, але так велізарныя турбіны, што будуюцца каля мора і на незаселеных тэрыторыях, павінны стаяць ад 3 да 8 кіламетраў ад людскіх сядзіб, залежна ад магутнасці турбін. Такія, якія маюць быць узведзены непадалёк ад Чыжоў, адны з самых магутных у Польшчы, — сказаў чыжоўскі ветэрынар Яўген Кавальчук. — Мы перш за ўсё баімся за наша здароўе, бо ад турбін разыходзіцца не толькі гул, але таксама шкодныя для здароўя інфрагукі. Перш за ўсё ветракі запланаваны надта блізка ад сядзіб, а іх магутнасць надта вялікая, як на нашую, адносна густую, сетку вёсак. Ветравыя турбіны сапсуюць таксама краявід, бо не будуць гэта прыгожыя XIX-вечныя ветракі, але велізарныя будоўлі. Гэта таксама небяспека для птушак. Турбіны могуць палохаць турыстаў, адпачываючых у мясцовых аграквартэрах.

Яўген Кавальчук удакладніў, што подпісы супраць будовы ветравых турбін збіраліся таксама ў Збучы, Падрэчанах, Ракавічах, а нават і ў Лядах.

— Людзі ў Чыжах баяцца за сваё здароўе. Мне, як солтысу, жыхары сяла дарučылі прайсціся па вёсцы і спытаць, хто супраць будовы ветракоў. Мне падпісалася 96 чалавек. Подпісы збіралі іншыя асобы, людзі падпісваліся сем'ямі. Разам сабралі мы каля 150 подпісаў, — заявіў солтыс Чыжоў Яраслаў Бялькевіч.

— У народзе пашырана інфармацыя аб шкоднасці працы ветравых турбін для людскога здароўя, таму мы падпісваліся супраць іх будовы бліжэй чым кіламетр ад Чыжоў, — заявіў чыжоўскі паветовы радны Ян Адамчук.

У вясковай святліцы ў Чыжах 15 сакавіка войт Юры Васілюк спаткаўся з жыхарамі Чыжоў для абмеркавання розных вясковых спраў. Жыхары Чыжоў згадзіліся на продаж участка, які быў вясковай супольнасцю, а войт расказаў пра гмінныя фінансы і інвестыцыі. Асобы нязгодныя з планамі будовы ветравых электрастанцый вынеслі гэтую справу на вясковы сход.

— Я не супраць будовы ветравых турбін у Чыжоўскай гміне, але і не асабліві прыхільнік такой інвестыцыі. Калі ёсць супраціў, я хацеў бы, каб вы звярталіся да тых асоб, якія згадзіліся падпісаць папярэднія дамовы на арэнду ўчасткаў пад будову ветракоў, бо я нікога да такіх рашэнняў не схіляў. Калі жыхары нашай гміны падпісалі папярэднія дамовы на будову на іх участках ветравых электрастанцый, то Рада гміны прыняла адпаведную інтэнцыйную пастанову, змяніла мясцовы план прасторавага добраўпарадкавання гміны. Аднак год таму Рэгіянальная дырэкцыя аховы асяроддзя адхіліла прапанову інвестара будовы турбін і таму інвестыцыя не будзе рэалізавацца ў бліжэйшым часе. Інвестар яшчэ раз паслаў заяву ў Рэгіянальную дырэкцыю аховы асяроддзя з папраўленым планам і цяпер чакае яго доўгая дарога, пакуль ён зможа атрымаць адпаведныя дазволы на будову ветравых электрастанцый. Аб'яднанне аховы птушак і іншыя няўрадавыя арганізацыі могуць пратэставаць супраць такіх інвестыцый і таму цяпер зарана разглядаць прапанову будовы турбін на трох абшарах, з якіх два, якія вас цікавяць, паміж Чыжамі і Ракавічамі і паміж Збучом і Морам, — гаварыў войт Юры Васілюк у час спаткання. — Аднак у суседніх гмінах прадбачваецца будова ветравых турбін і там пратэстаў няма. У Нараўчанскай гміне ўжо паўстаюць ветравыя турбіны, распачнецца будова 15 турбін у Арлянскай гміне. У Бельскай гміне стаіць вышка для памеру сілы ветру, што таксама можа прадвяшчаць будову турбін.

Пратэсты спынілі планы будовы ветравых турбін у Гайнаўскай гміне. Ева Мароз-Кэчынская з Новага Беразова сказала мне, што Рэгіянальная дырэкцыя аховы асяроддзя адхіліла планы будовы ветравых электрастанцый паміж Новым Беразовам і Старым Беразовам, але інвестар можа выступіць з іншым планам у гэтую ж дырэкцыю і справа можа разглядацца нанава.

— Мы не ведалі аб планах будовы ветравых турбін у нашай гміне. Калі б ведалі, то раней пратэставалі б супраць гэтай інвестыцыі, — заявіла Хрысціня Кавальчук з Чыжоў.

— Калі б у нашай гміне праводзіліся кансультацыі ў справе планаў будовы ветравых турбін, мы даведаліся б больш аб гэтай інвестыцыі, але такіх кансультацый не было, — сказала Эмілія Ахрымюк.

— Усе пастановы Рады гміны публікуюцца і згаданая інтэнцыйная пастанова ў справе змены мясцовага плана прасторавага добраўпарадкавання нашай гміны таксама публікавалася, — пераконваў войт Юры Васілюк.

Хаця лобі, якое прапагандуе аднаўляльныя крыніцы энергіі, пераконвае аб няшкоднасці ветравых турбін для здароўя людзей, калі тыя жывуць нават у невялікай адлегласці ад ветравых электрастанцый, пратэсты супраць будовы ветракоў уздымаюцца ў розных месцах Польшчы.

— Зараз у Польшчы каля паўтары тысячы акцый пратэсту супраць будовы ветравых турбін. Можна знайсці шмат інфармацыі аб шкодным іх уздзеянні на людское здароўе. У Сейме разглядаецца законапраект, які мае даць юрыдычныя асновы для будовы і дзейнасці ветравых электрастанцый, бо зараз такога закону няма. У ім прапануецца будаваць ветракі не бліжэй чым 3 кіламетры ад людскіх сядзіб. Пачакайма яшчэ год ці два, калі закон уступіць у сілу, і на падставе яго вырашайма ці будаваць у нас ветравыя турбіны і ў якой адлегласці ад нашых дамоў, — заявіў у канцы сустрэчы Міхал Кавальчук.

— Калі нехта схоча, можна паехаць у гміну Пшэрасль, дзе працуюць ветравыя турбіны і прыглянуцца іх дзейнасці, — запрапанаваў войт Юры Васілюк.

Пажылы Васіль Франкоўскі пераконваў, што стаяў блізка турбіны і не чуў ніякіх шумаў ад яе. Аднак чыжавяне падазраюць, што мог ён падпісаць папярэднюю дамову на будову на яго полі турбіны і таму так станоўча выказваецца пра ветракі. У час спаткання адбылося галасаванне ці пускаць кароценькія фільмы з выказваннямі людзей з розных месцаў Польшчы, якія жывуць побач ветравых электрастанцый і скардзяцца на іх працу, і сабраныя выявілі ахвоту паглядзець такія фільмы.

— Покі хопіць сіл, я буду пратэставаць супраць будовы ветравых турбін побач Чыжоў, бо іх гул не дасць нам жыць. Калі я еду да свайго дзіцяці ў Познань, то за Конінам, недзе паўкіламетра ад аўтастрады, стаяць чатыры ветравыя турбіны і мы нават у машыне чуем шум ад іх. Мой сын ездзіць па Еўропе і кажа, што зараз у Галандыі многія турбіны не працуюць. Магчыма, што з-за пратэстаў людзей, — сказала пасля заканчэння спаткання Валянціна Пракапюк.

— Я лічу, што не будзе ў нас ніякіх ветравых турбін і таму няма што аб гэтым гаварыць, — заявіў мне пасля спаткання войт Юры Васілюк.

Частка чыжавян, што засталіся глядзець фільмы, сказалі мне, што хочуць прапанаваць гмінным радным, каб тыя памянялі план мясцовага прасторавага добраўпарадкавання так, каб нельга было будаваць у гміне ветравых электрастанцый. Мясцовыя разважаюць таксама, каб звярнуцца да арганізацый і ўстаноў, якія дапамаглі б ім блакіраваць будову ветракоў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# „Ад веку мы спалі”

Пакуль ва Украіне і вакол яе адбываюцца бурлівыя падзеі планетарнага маштабу, Беларусь і яе насельнікі спяць. У Беларусі летаргія і мясцовыя „выбары-вырабы”, ды насельнікі нашай краіны стараюцца не заўважаць украінскіх падзей і жыць сваім звыклым жыццём. Адзінкавыя публічныя выступы грамадскіх актывістаў у падтрымку Украіны і супраць расійскай агрэсіі сістэмна караюцца ўладай у розных гарадах Беларусі. Заявы дэмакратычных палітычных партый мала каго кранаюць і не даходзяць да мас. Ходзячы па горадзе, ездзячы ў аўтобусах, слухаючы размовы, „украінскай” тэматыкі ў людных месцах не чую зусім. А значыць людзі не адчуваюць небяспекі ні для сваёй дзяржавы, ні для сябе асабіста. Вострыя абмеркаванні, каментары, дыскусіі — толькі ў інтэрнэце. Беларускае грамадска-палітычнае жыццё даўно перамясцілася ў інтэрнэтнае „павуцінне” і стала пераважна віртуальным, нейкім глыбока схаваным і амаль тэарэтычным.

Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі востра перажываюць захоп Крыма, дзікую агрэсію маскоўскай дзяржавы і тыя правакацыі, якія робяцца на тэрыторыі суверэннай Украіны. Адсюль і нараканні на свой народ, які ледзь не ў рай хоча ўехаць на чужым гарбе, хоча адсядзецца, пакуль суседзі, ахвяруючы сваімі жыццямі, змагаюцца за праўду і вольнасць. Самотнасць, а часам і адчай прадстаўнікоў нашай эліты зразумець можна —ужо колькі пакаленняў беларусаў паклала свае галовы ў змаганні за сваю краіну і яе незалежнасць. А многія нават не ў змаганні, а проста ў памкненні быць беларусамі, „людзьмі звацца”. Эліта таксама стамілася, а воз беларускай дзяржаўнасці ніяк не скрануць з месца ў патрэбны бок.

Беларускае насельніцтва таксама зразумець можна, генетычную памяць не падманеш. Беларускі народ стаміўся ад пакут XX стагоддзя, таму мінімальная забяспечанасць і мірнае існаванне — гэта тое, што задавальняе большасць. Гэта Швецыя нядаўна адзначыла 200 гадоў без вайны, беларусы пра такое толькі могуць марыць. Драпежнікі з усіх бакоў драталі, пустошылі і нішчылі гэтую зямлю і яе люд. Возьмем тое ж XX стагоддзе. Большая яго частка была проста жахлівай: спярша змушаны ўдзел у расейска-японскай вайне, потым расейскія рэвалюцыі, якія білі рыкашэтам, Першая сусветная вайна як страшная катастрофа — з яе забойствамі, рабаваннем і бежанствам. Змена разнастайных акупацый, якія прынеслі безліч гора, Другая сусветная вайна, цягам якой фізічна вынішчылі кожнага трэцяга жыхара Беларусі. Далей працяг сталінскага тэрору. Па сутнасці толькі пасля сканання „бацькі народаў”, цягам нейкіх сарака-пяцідзесяці гадоў, беларусы пажылі без масавых прымусовых перасяленняў, забойстваў і здзекаў. Праўда, і ў гэты перыяд на долю нацыі выпаў удзел у маскоўскай вайне з Афганістанам, а таксама страшная па сваіх наступствах чарнобыльская аварыя. Абвяшчэнне суверэнітэту было ўспрынятае свядомай часткай грамадства як сапраўды гарант мірнага развіцця і ўсталяванне незалежнай дзяржавы. І вось зараз высвятляецца, што ніякія будапешцкія мемарандумы, і нават усё міжнароднае заканадаўства не гарантуе нам тэрытарыяльнай цэласнасці і захавання сваёй дзяржавы. У кожны дзень на беларускую зямлю можа высадзіцца вайсковы дэсант чужой дзяржавы, якая зноў будзе дыктаваць беларусам свае ўмовы. Тое, што вытварае Расія ва Украіне ўжо ў XXI стагоддзі, пераходзіць усе межы ўяўлення пра сучасную палітыку, нішчыць хімеру ўяўнай бяспекі.

Беларуская хітрасць не рэагаваць на тое, што адбываецца, і не ўмешвацца ў гэта выглядае беларускай наіўнасцю. Тыя апошнія дзвацаць гадоў, калі краіну вялі ў жалезных абдымкі „братняй Масквы”, прывялі нас усіх на край хісткай мяжы. Так што цяпер сядзі ў будзе — і чакай, што будзе. Але цяпер, хіба, спакойна не ўдасца адседзецца ўсяму беларускаму народу.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Разбудзіць чарвяка



З нейкага часу я, перш чым паглыбіцца ў няпэўныя сны, інтэнсіўна ўяўляю сабе сваё адзінокае плаванне пад парусамі. Па паўднёвых марах. Не захапляе мяне ў гэтых мроях ані наведванне смарагдавых архіпелагаў і зялёна-залатых атолаў або бясклапотнае валацужанне па краях свету, але дробязнае паўсядзённае жыццё: узіранне ў міраж гарызонту, смак солі на вуснах, парадкаванне вантаў і вялікае экзістэнцыяльнае пытанне задаванае сабе ў камбузе — што мне з'есці на абед, лятучую рыбу з патэльні ці кітайскі супок з парашку? Выбіраю рыбу. Не зацыкліваюся на тым, ці лятучыя рыбы ядомыя. Абсмажваю іх з запалам, няспешна варочаю з боку ў бок. Сквірчыць тлушч, таму я адчыняю дзверцы ілюмінатара, каб выгнаць пах гару... Так усю энергію ўяўлення засяроджваю, як пад павелічальным шклом, на закутках гэтай уяўнай рэальнасці: вось, на рыбіным воку, што гасне на распаленай патэльні, на фантасмагорнай форме хмары, што гоніцца з маёй суднаходнай Паняй, якую я называю «Наднараўская Лаза», на трапятанні яе апаўшых ветразей. Але ўбач і ўчуй гэта разам са мною, Чытач, — кінаваравы рэшткавы малюнак Сонца, сінь неба, блакіт вады і, нарэшце, бясконцую асаладу адзінокага рэйсу ў цішыні напоўненай аж да межаў чалавечага розуму шэптам і крыкам трапічнага мора, начным спевам гарбатых кітоў, флюарэсцыяй прыпаверхневага планктона і экзатычным святлом зорак паўднёвай часткі неба....

Ну і потым прыходзяць сны. Я не хачу вырашаць, ці яны ва ўяўленні, ці ў рэчаіснасці. Як я ўжо сказаў, сны нявызначаныя. Перш за ўсё, з-за таго, што немагчыма практыкаваць поўны кантроль над імі. Тым не менш, незалежна ад таго, ці хтосьці мроіць іх ва ўяве, ці пасіўна ўдзельнічае ў нерэальнай гісторыі, павінен несці за іх адказнасць. Я клапачуся аб сваю «Наднараўскую Лазу». Скрабу яе палубу і цырую парваныя ветразі. Клапачуся таксама пра тое, каб нікога не пакрыўдзіць. А ці Пуцін нясе адказнасць за свае трызненні? Ці трызніць ён на яве, або, мабыць, зазнаваў свет чорнымі ніткамі свайго злога сну? У гэтым выпадку хто павінен неадкладна прачнуцца? На жаль, бываюць такія сны, што летуценніку сніцца тое, што сніцца яму іншы сон, а ў ім другі сон, што прыводзіць да эфекту лялькі-матрошкі. Маштаб сноў становіцца ўсё меншым і ў канцы не большыя яны чым сон малога чарвяка, які сніў аб сваёй велічы. Дык загадваю: чарвяк, прачніся!

Калі я пісаў гэтыя словы, раптам пачаўся дождж, мімалётны, у праблісках веснавога сонца. Сеўшы ў адкрытым акне, я пачаў глядзець на мой інкруставаны дажджом агарод. Нада мною праляцеў ключ дзікіх гусей. Такое імгненне, як гэта, само па сабе мае нешта з бясконцасці, якую ўвесь час недаацэньваю, звяртаючы сваю ўвагу на іншую і ў роўнай ступені непастаянную. Тут расспяваліся жураўлі. На працягу многіх гадоў непадалёк маёй хаткі ў багністых чаратах гняздуецца тая ж парка, Станіслаў і яго жонка Стаха. Па крайняй меры, хочацца ў гэта верыць. Такім чынам, гэты момант гадоў таму, калі я ў першы раз пачуў іх кранаючы пераклік, пагружаецца ў цяперашні момант, калі я слухаю іх паўторнае такаванне. Такім чынам адзін момант пагружаецца ў другім, а другі ў трэцім. Я ведаю, што за імі будуць далейшыя, неяк невытлумачальныя і нерашучыя па сваім змесце, але вартыя ўвагі, якая ім аддаецца. Таму што толькі гэта адрознівае іх ад сну: проста ўвага. Менавіта дзякуючы ёй наша жыццё менш кульгавае. Толькі што момант, па вызначэнні ўжо з недахопам — занадта хутка ён праходзіць. Вось чаму нельга адмовіцца ў сабе ад бунту супраць невытлумачальнай няўлоўнасці хвіліны. Трэба ў сабе ўвесь час бунтавацца — тым творчым бунтам, які не ўлічвае чалавечага балбатання і непатрэбнага размахвання рукамі. Бунтам, які нічога не патрабуе, не жадае, не разбурае. Да нічога не кіруецца. Ад нічога не ўцякае. Не мае ён таксама нічога супольнага з пачуццём спазнаных крыўд. Ані здзейсненых крыўд. Ён бязмэтны. Гэта як плыць па ўяўленні па паўднёвых марах. Ён як прыгожая мроя, да якой прыкоўваем усімі сіламі сваю ўвагу. Толькі тады яна становіцца бясконцай. Іначай чым сны. Асабліва тыя схаваныя адзін у адзін. Яны заўсёды канчаюцца, як у матрошцы, злым сном крыху больш чым чарвячок, якому сніцца. Справа толькі ў тым, каб своечасова прачнуцца, каб убачыць у чарвяку тое, што ён чарвяк.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Гадавіна Яцка КУРАНЯ

Нядаўна мінула васьмідзесятая гадавіна з дня нараджэння Яцка Кураня. У чэрвені ў сваю чаргу міне дзесяць гадоў, як яго не стала. Ён быў палітыкам, адным з лідараў апазіцыі ў перыяд ПНР, гісторыкам, дзеячам гэтак званага Чырвонага скаўтства, заснавальнікам Камітэта абароны рабочых, два разы міністрам працы і сацыяльнай палітыкі, у 1989-2001 гадах дэпутатам Сейма, у тым ліку двойчы старшынёй парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей (другога і трэцяга скліканняў Сейма). Ужо ў 1974 годзе ён пісаў: «Суверэнітэт Украіны, Беларусі і Літвы з'яўляецца праграмай барацьбы за польскі суверэнітэт і ў той жа час яны рэальныя для яе, а не экзатычныя саюзнікі. Для палітычнай апазіцыі ў Польшчы гэтая думка павінна быць дырэктывай да дзеяння». Для нацыянальных меншасцей быў ён абаронцам іх правоў, стоячы заўсёды на іх баку, калі ўчынялася ім шкода. Ён быў ініцыятарам Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальных мовах, прынятых парламентам на працягу некалькіх месяцаў пасля яго смерці — у студзені 2005 года. Падчас першага чытання законапраекта ў Сейме ў 1999 годзе сказаў: «Варта сабе ўсвядоміць, што вось мы становімся меншасцю. Мы ж не належым да найбольшых народаў. Але нават калі толькі ў адносінах да ўсяе еўрапейскай супольнасці, да ўсіх яе асноўных праблем — праблемы культывавання нацыянальнай самабытнасці, яе развіцця і паглыблення ёсць праблемамі, з якімі кожны народ павінен сам справіцца; супраць іншых ён з'яўляецца меншасцю. Адчуваем у сувязі з гэтым у Польшчы нейкія апаскі, нават у гэтай Палаце. Ёсць два падыходы да гэтай праблемы. Адзін з іх такі, што будзем уцякаць ад Супольнасці, старацца ізаляваць сябе ад яе і закрывацца ў сваёй этнічнай ідэнтычнасці. Гістарычны вопыт паказвае, што тыя абшчыны, якія зачыняліся ў сваёй этнічнай прыналежнасці, у адносінах да ўніверсальных плыняў гінулі. Сёння цяжка знайсці іх сляды, калі наогул іх знаходзяць. Ёсць другі выхад, да якога мы, палякі, мы, польскі парламент, асабліва прызваны. Ён заключаецца на фарміраванні такіх правоў, такіх канонаў суіснавання еўрапейскай супольнасці, сусветнай супольнасці, у якіх меншасці роўныя правамі большасці. У гэтых супольнасцях, нягледзячы на шматлікія адваротныя тэндэнцыі, бо мы не зачыняем вачэй — мы маем справу з моцнымі ўніфікацыйнымі тэндэнцыямі, мы зможам стварыць спрыяльны клімат для меншасцей, для нашага росквіту, нашай нацыянальнай ідэнтычнасці».

У іншым інтэрв'ю заявіў: «З разумення непазнавальнасці праўды вынікае асноўны прынцып ліберальнай дэмакратыі, казаўшы, што павінна вырашаць, меркаванне большасці, але гэта большасць павінна паважаць правы меншасцей, якія могуць быць бліжэй да ісціны. Меншасці ва ўмовах дэмакратыі гарантуюца асаблівыя правы, для таго, каб большасць яе ніколі не разбурыла і каб меншасць магла калі-небудзь стаць большасцю».

Міраслаў Чэх, былы дэпутат і сябра Яцка Кураня пісаў пра яго: «Дзякуючы яго палітычнай думцы і практычным дзеянням, Польшча з'яўляецца краінай міру ў нацыянальных пытаннях. Мадэллю, як з гонарам падкрэслівае наша дыпламатыя, для іншых. Ён заклаў асновы настолькі моцныя, што іх не змаглі зрушыць змены ўрадаў і падбухторванні розных асяроддзяў, каб «іх меншасцям» у Польшчы адплаціць за сапраўдныя ці выдуманыя прыгнёты, якія перажывае польская абшчына за мяжой. Яцак меў вельмі прачуленае вуха на пагрозы для польска-ўкраінскіх адносін (але і польска-беларускіх — М. Х.). Патрапіў прыкмеціць небяспеку ў той час, калі іншым здавалася, што ніякая не прыйдзе. Вострa гаварыў перш за ўсё да палякаў і ад палякаў больш патрабаваў. Заклікаў услед за ксяндзом Янам Зеям да магутнасці духу, які «не закрываецца і не баіцца. Наадварот, ён падтрымлівае ўсіх тых, хто культурна слабейшы, менш культурна дынамічны».

У год круглых гадавін нараджэння і смерці Яцка Кураня асабліва не хапае яго голасу. Стаіць гэты год пад знакам расійска-ўкраінскага канфлікту і пагроз для будавання дэмакратыі і поўнай аўтаноміі ва ўсходніх польскіх суседзяў, у гэтым кантэксце спробы дамінаваць над слабейшым. Парадаксальна ўзгадваю тут Яцка Кураня ў той дзень, калі на Крыме адбываецца рэферэндум аб далучэнні паўвострава да Расіі, у абвастранай сітуацыі ў цэлым рэгіёне гэтай часткі Еўропы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў

Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», вядомы фалькларыст і гісторык, займаецца збіраннем і прапагандаваннем фальклору беларусаў Падляшша і Палесся, ладзіць фестывалі «Там по маёвуй росі» і «Олень по бору ходіт», фальклорныя мерапрыемствы і выстаўкі. Другая дзялянка ангажаванасці Дарафея Фіёніка гэта гісторыя Бельскай зямлі, якая ў мінулым ахоплівала тэрыторыю сённяшняга Бельскага і частак Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў, а таксама гісторыя Падляшша і Палесся ў цэлым. Нядаўна выйшла з друку навейшая кніжка Дарафея Фіёніка «Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў»*, якой першая прамоцыя адбылася ў Нарве. Спатканне ў Гмінным асяродку культуры, якое адбылося 9 сакавіка, сабрала асоб, зацікаўленых мясцовай гісторыяй і культурай. Сабраных прывітала дырэктар ГАК у Нарве Агата Смактуновіч. Аўтар расказаў пра змест новай кніжкі і праінфармаваў аб сваіх выдавецкіх планах.

— Я невыпадкова пачаў прэзентацыю кніжкі ад Нарвы, бо сёлета ваша мясцовасць найважнейшая на Падляшшы. 10 ліпеня гэтага года, два дні перад святкаваннем у гонар апосталаў Пятра і Паўла, будзе адзначацца 500-годдзе прысваення Нарве хэлмінскага гарадскога права. 27 чэрвеня 1514 года, лічыўшы па старым стылі, кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары прысвоіў Нарве хэлмінскае права, а прывілея была напісана на старабеларускай мове. Паколькі ў тадышняга караля мала было польскай крыві, а ў галоўным літоўская і беларуская, Жыгімонт Стары пісаў на старабеларускай мове. Пазней, у 1529 годзе, Нарва атрымала поўнае магдэбургскае гарадское права. Але ваша мясцовасць паўстала намнога раней, аб чым сведчаць гарадзішча і курганныя магілкі. Адны з іх, датаваныя на IX-XI стагоддзі, знаходзяцца ў Лядскай пушчы, ва ўрочышчы «Старая Нарва». Нарва разгарнулася як мясцовасць распалажаная каля ракі і на галоўным каралеўскім шляху з Вільні ў Кракаў. Тут затрымліваліся на адпачынак знатныя людзі, гасцявала каралева Бона з каралеўнамі. Каб абслужыць знатных падарожнікаў, у Нарве і навакольных вёсках пачалі дзейнічаць калеснікі, рымары і іншыя рамеснікі. На развіццё Нарвы вялікае ўздзеянне мелі бельскія мяшчане, якія высякалі Бельскую пушчу і па рацэ Нарве сплаўлялі ў Гданьск драўніну і збожжа, — расказаў Дарафей Фіёнік.

У сустрэчы ўдзельнічалі, між іншым, мясцовы краязнавец Міхал Фільяновіч, уласнік Скарышэўскага музея, некаторыя матэрыялы якога былі надрукаваныя ў нававыдадзенай кніжцы, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Ласінцы протаіерэй Юры Кос і мясцовыя людзі культуры.

— Выдалі мы кніжку-альбом, у якой гістарычную інфармацыю аб нашых тэрыторыях, пачынаючы ад старажытнасці, а канчаючы на XIX стагоддзі, папаўняем вялікай колькасцю каляровых фатаграфій. Гэта падручнік па гісторыі нашага рэгіёна, які можна выкарыстаць, напрыклад, на ўроках беларускай мовы. Адначасна гэта гістарычны даведнік для дарослых, — сказаў Дарафей Фіёнік. — Падляшша багатае гісторыяй і выдатнымі людзьмі, перш за ўсё ў гарадах, дзе жыла тагачасная інтэлігенцыя. Нашая зямля была адкрыта на вялікія культурныя цэнтры Балкан, Візантыі і Заходняй Еўропы. Кніжка расказвае пра значэнне культуры ў гісторыі падляшскіх гарадоў.

Кніжка «Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў» адрасаваная перш за ўсё да людзей, якія цікавяцца сваёй гісторыяй і культурай. Шыкарнае альбомнае выданне толькі ўзмацняе яго вартасць. Дарафей Фіёнік — аўтар кніжкі, сам падбіраў да яе ілюстрацыі. На вокладцы, у пачатку і канцы кніжкі замешчаны рысункі Драгічына, аўтарства Уладзіслава Петрука і Орлі — Міраслава Здрайкоўскага, якія паказваюць абодва мястэчка ў далёкім мінулым. Графічную апрацоўку ўдала зрабіла Магдалена Петрук, дачка Уладзіслава, а падрыхтаваць кніжку да выдання дапамагалі Тамаш Суліма і Анна Фіёнік.





— Тэксты ў кніжцы напісаны на нашай падляшскай мове. Важным дапаўненнем да іх з'яўляюцца ілюстрацыі. У кожным артыкуле прыводзяцца цытаты з рускіх летапісаў, манаршых прывілеяў або іншых дакументаў. Пісаны яны найчасцей на старабеларускай мове. Варта пачытаць гэтыя тэксты і пераканацца, як іх мова падобная да мовы, на якой цяпер размаўляюць беларусы на Бельшчыне ці Гайнаўшчыне...



— Тэксты ў кніжцы напісаны на нашай падляшскай мове. Важным дапаўненнем да іх з'яўляюцца ілюстрацыі. У кожным артыкуле прыводзяцца цытаты з рускіх летапісаў, манаршых прывілеяў або іншых дакументаў. Пісаны яны найчасцей на старабеларускай мове. Варта пачытаць гэтыя тэксты і пераканацца, як іх мова падобная да мовы, на якой цяпер размаўляюць беларусы на Бельшчыне ці Гайнаўшчыне, — лічыць аўтар кніжкі.

На спатканні Дарафей Фіёнік прачытаў фрагмент прывілеі і пераканаў тым сабраных, што мова, на якой размаўляюць у Нарве і наваколлі гэта каралеўская мова.

— Раней, недзе 150 гадоў назад, падляшскую мову называлі каралеўскай і такая назва не была выпадковай. Наша падляшская мова гэта захаваная ў вельмі добрым стане старабеларуская мова, на якой былі напісаны, між іншым, статуты Вялікага Княства Літоўскага і прывілеі і гэта яшчэ павышае яе вартасць. Для прыкладу, старапольская мова Каханоўскага нідзе ў Польшчы не захавалася, — заявіў Дарафей Фіёнік.

„Тым найстарэйшым нашым падляшскім гарадзішчам — горадам ёсць Гацькі. (...) У палове V стагоддзя да нашай эры, калі Грэцыя стала важнай дзяржавай, а Рыма яшчэ практычна не было, прыбылі сюды людзі паморскай культуры. Добра ацанілі абаронную вартасць (гацькоўскай — А. М.) гары і заснавалі тут гарадзішча. (...) У пачатку нашай эры жылі тут людзі зарубінецкай культуры, якіх можна аднесці да ўсходніх славян, значыць продкаў цяперашніх беларусаў. Непадалёк ад гарадзішча захаваўся з гэтых часоў вялікі курган, датаваны на 40-130 гады нашай эры, — піша Дарафей Фіёнік у раздзеле „Напачатку былі Гацькі". — Залаты свой век Гацькі перажывалі да XII стагоддзя. Рускія князі стараліся замацоўваць старыя і будавалі новыя гарадзішчы. У XI стагоддзі ў Гацьках паўстае вялікі комплекс пасадаў, які можна назваць местам — горадам. На гарадзішчы, дзе раней магло знаходзіцца паганскае капішча, цяпер паўстала хрысціянская царква. Яшчэ ў XVI стагоддзі знаходзім інфармацыю пра царкву ў Гацьках. А гацькоўскія кавалі далей працягвалі сваю працу. І калі ў XIII стагоддзі іх старажытны горад саступіў першынства Бельску, яны цэлы час працавалі на бельскі замак".

У новым выданні «Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў» многа месца адведзена помнікам праваслаўнага веравызнання, найбольш характэрнага для продкаў цяперашніх падляшскіх беларусаў. Змешчаны ў кніжцы здымкі цэркваў, праваслаўных ікон і царкоўных дакументаў. Канешне, у кніжцы найбольш матэрыялу пра свецкую гісторыю Падляшша, з ухілам на даўнія гарады населеныя беларусамі. Многа месца аўтар адводзіць Драгічыну і Бярэсцю — «надбужанскім сталіцам».

„Два надбужанскія гарады — Бярэсце і Драгічын, ад самага пачатку спалучыў супольны лёс. Часам іх дарогі разыходзіліся, каб зноў спалучыцца ў рамках княства, ці ваяводства", — піша ў кніжцы Дарафей Фіёнік і расказвае пра Драгічын як сталіцу Падляшскага ваяводства да XVIII стагоддзя. Аўтар апісвае важныя падзеі з гісторыі Мельніка, пачынаючы са злому першага і другога тысячагоддзяў. Вопіс Бельска-Падляшскага, азагалоўлены «Горад пад пакровам Багародзіцы», пачынаецца рэпрадукцыяй іконы Бельскай Божай Маці. Рэзультатам вялікага культу Багародзіцы ў Бельску з'яўляюцца тры праваслаўныя цэрквы ў гонар Божай Маці — Прачысценская, Успенская і Пакроўская. У Бельску ёсць таксама два каталіцкія касцёлы ў гонар Багародзіцы — Фарны і Пакармеліцкі.

— У XVI стагоддзі Бельск быў адміністрацыйным цэнтрам, чацвёртым па эканамічным значэнні горадам у Вялікім Княстве Літоўскім. У 1561 годзе па колькасці падаткаў Бельск саступаў толькі Вільні, Коўну і моцна развітаму тады Брэсту. Гродна, Мінск ці Кіеў плацілі падобную колькасць падаткаў, што Бельск або і менш. Бельск быў тады моцна развітым горадам, дзе было каля 800 дамоў і каля 5 тысяч жыхароў, што было вялікай колькасцю як на XVI стагоддзе, — патлумачыў Дарафей Фіёнік.

Супрасльскі мужчынскі манастыр апісваецца з ухілам на пісаныя і друкаваныя помнікі пісьменства. Кляшчэлі ў сваю чаргу апісаны як першы горад на *Нурцёві*, у якім пасля была вялікая колькасць рамеснікаў, перш за ўсё ганчароў.

„У 1580 годзе ў Кляшчэлях жыло 2310 людзей. Быў гэта другі па велічыні горад на Падляшшы, пасля Бельска. У 1616 годзе тут працуе 82 рамеснікаў, 43 мяшчан займаецца гандлем, а 52 асобы вядуць корчмы", — піша ў кніжцы Дарафей Фіёнік і расказвае таксама пра Орлю. — „За Хрыстафора Радзівіла (другая палова XVI стагоддзя) пачынаецца праўдзівы росквіт Орлі. Магнат разбудоўвае замак-двор, які становіцца адной з найпрыгажэйшых рэзідэнцый на Падляшшы".

Дарафей Фіёнік апісаў яшчэ Боцькі, Сямятычы, Мілейчычы, згадаў пра Сураж, Бранск, Тыкоцін і Кнышын, а ў заканчэнні выдання расказаў пра рамеснікаў у падляшскіх гарадах.

Кніжку выдала аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах», дзякуючы сродкам Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

— Кніжка «Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў» адкрывае выдавецкую серыю «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў», праз якую хочам пазнаёміць чытачоў з гісторыяй і культурай падляшскіх беларусаў на нашай роднай мове. Плануем кожны год выдаваць па адной кніжцы. Цяпер рыхтуецца да друку кніжка «Бельскі вялікі сойм 1564 года», у якой, яшчэ ў гэтым годзе пакажам былі вузкую гісторыю. На 2015 год запланавалі мы выданне кніжкі пра бежанства, паколькі міне тады сотая гадавіна ад яго пачатку, — праінфармаваў Дарафей Фіёнік.

У час спаткання адбылася таксама прамоцыя навейшага нумара «Бельского гостінця». У ім многа матэрыялаў аб маёнтку Галовеск, аб Бельску-Падляшскім у 1914 годзе і аб святкаванні стагоддзя існавання вёскі Раманаўка.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

*Дорофіеј Фіонік, *Міеста в гісторыјі і кул'туры пудл'ашскіх біелорусув*, Музіеј Малујі бат'кувшчыны в Студзіводах, 2013, 96 с.

**Віктар ШВЕД**

## *На парозе дзевяностага года*

*Мінуў гадок папросту*
*Восемдзесят дзевяты,*
*Пачаўся дзевяносты*
*Гадочак круглай даты.*

*Жыву далей з надзеяй,*
*Што мне дазволіш, Божа,*
*Дажыць да юбілею,*
*Хвіліны так прыгожай.*

*Хвіліну дарагую,*
*Свой доўгі шлях жыццёвы,*
*Шчасліва падсумую*
*Я паэтычным словам.*

*І маю на прыкмеце,*
*Што сапраўды няпроста*
*На тым складаным свеце*
*Пражыць год дзевяноста!*

**Беласток,**
**23 сакавіка 2014 года**








# Падкамісія па надзвычайных справах

На фоне запланаванага на май чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі і афрыканскай чумы свіней (АЧС) было праведзена трынаццатае пасяджэнне польска-беларускай падкамісіі па пытаннях транснгранічнага супрацоўніцтва, дзейнічаючай у рамках Сумеснай польска-беларускай міжурадавай каардынацыйнай камісіі. Супрацоўніцтва ўсіх відаў службаў у рамках падкамісіі ахоплівае Люблінскае і Падляшскае ваяводствы ды Гродзенскую і Брэсцкую вобласці.

У сядзібе Белавежскага нацыянальнага парку 14 сакавіка ад польскага боку сустрэчы старшынстваваў падляшскі ваявода Мацей Жыўна, а ад беларускага — Васіль Сцепаненка, першы намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях. У пасяджэнні прынялі ўдзел пастаянныя члены падкамісіі — прадстаўнікі санітарна-эпідэміялагічных, экалагічных, пажарных і выратавальных, пагранічных і мытных, праваой аховы і ветэрынарных службаў з памежных рэгіёнаў абедзвюх краін. Падкамісія каардынуе ў асноўным супрацоўніцтва польскіх і беларускіх службаў па папярэджванні і ліквідацыі надзвычайных сітуацый, стыхійных бедстваў і іншых незвычайных здарэнняў у прыгранічных раёнах.

Непасрэдна перад падпісаннем пратакола пасяджэння, ваявода Жыўна, спасылаючыся на вынікі працы падкамісіі, паўжартам кінуў журналістам:

— Вы пытаецеся, што адбываецца ў падкамісіі? Дзякуй Богу нічога экстраардынарнага.

Цалкам сур'ёзна сказаў:

— Падкамісія па пытаннях трансгранічнага супрацоўніцтва з'яўляецца адзінай падкамісіяй, якая незалежна ад палітычнай сітуацыі дзейнічае без перапынку ад шасці гадоў. Два разы ў год мы сустракаемся, каб абмяркоўваць агульныя праблемы. Абмен інфармацыяй пра дзейнасць прадстаўленых тут службаў неабходны. Часта на гэтым узроўні мы ведаем больш і даведваемся хутчэй, чым нашы цэнтры ў Варшаве і Мінску. Дасюль у рамках падкамісіі мы дбалі аб інфраструктуру на нашых пагранпераходах, каб яна была пабудавана так сама па абодвух баках. Надалей стаіць пытанне аб тым, як паскорыць чэргі на мяжы. Сярод праблем, якія ўдалося вырашыць — прафілактыка па прадухіленні захворвання шаленствам. Як паказвае статыстыка, пасля некалькіх гадоў супрацоўніцтва ў гэтай галіне, узровень шаленства ў раёне мяжы блізкі да нуля.

У сувязі з афрыканскай чумой свіней ваявода сказаў:

— Мы прадставілі ўсю інфармацыю аб дзеяннях з нашага боку па прадухіленні распаўсюджвання захворвання. Узамен мы атрымалі інфармацыю аб дзейнасці беларускага боку, прытым перад імі яшчэ некалькі гадоў, каб справіцца з гэтай праблемай, уключаючы забарону на свінагадоўлю ў асабістых падсобных гаспадарках і паляванні на дзікоў. Важна, што мая просьба да гродзенскага губернатара пра стралянне дзікоў ад мяжы ў глыб Беларусі, а не ў наш бок была выканана, што на практыцы абазначае, каб іх статкі не былі гнаныя ў наш бок. На практыцы, іх буферная зона ахоплівае ўсю Беларусь і там былі пачаты цэлы шэраг дзеянняў.

Як сказаў ваявода, пытанне паслядоўнасцей магчымага трохгадовага эмбарга на ўвоз мяса з раёнаў ахопленых АЧС на падкамісіі не краналася, таму што гэта не ўзровень да гэтай дыскусіі.

Віцэ-міністр Васіль Сцепаненка адзначыў у сваю чаргу:

— Праблемы, якія разглядаюцца на гэты раз прадстаўленымі на падкамісіі службамі асабліва важныя для нас па прычыне арганізаванага ў Беларусі чэмпіянату па хакеі, у якім прымуць удзел многія замежныя дэлегацыі. Гэты год быў абвешчаны ў нашай краіне годам гасціннасці. Такім чынам, мы таксама чакаем шмат гасцей з-за мяжы. Таму мы павінны забяспечыць плаўнае перасяканне мяжы і бяспеку на тэрыторыі нашай краіны. Шукаем варыянтаў, каб у сувязі з гэтымі падзеямі спрасціць і паскорыць працэдуры перасячэння польска-беларускай мяжы, павялічыць яе прапускную здольнасць.

У сувязі з АЧС паведаміў:

— У Беларусі гэтай праблеме надаецца асаблівая ўвага на самым высокім узроўні: прэзідэнта і ўрада, і прымаюцца беспрэцэдэнтныя меры. Былі ліквідаваны ўсе дробнатаварныя свінагадоўчыя фермы. Забаронена гадоўля свіней у асабістых падсобных гаспадарках. Усе свінні былі перамешчаны ў буйныя жывёлагадоўчыя комплексы, працаўнікі якіх атрымліваюць спецыяльную рабочую вопратку, праходзяць апрацоўку. Вакол комплексаў створаны карантынныя зоны, дзе таксама нельга трымаць свіней. Праводзяцца абучэнні фермераў і маніторынг сітуацыі. Выпадкі кожнай здохлай свінні аналізуюцца. На ўзроўні ўрада было прынята рашэнне аб паменшанні ліку дзікіх кабаноў, сярод якіх рызыка захворвання з'яўляецца найбольшай.

Нэлі Гіндзюк, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Брэсцкай вобласці падкрэсліла:

— Мы паставілі задачу наконт узаемнага хуткага інфармавання аб прафілактыцы інфекцыйных захворванняў. Асабліва важнае гэтае пытанне цяпер, у 2014 годзе, які быў агучаны прэзідэнтам годам нашай гасціннасці, калі будзе праходзіць у Беларусі чэмпіянат свету па хакеі. Адпаведна, павінна быць забяспечана бяспека таксама ў санітарна-эпідэміялагічным плане.

Да гэтага часу на пасяджэннях падкамісіі шмат месца было нададзена супрацоўніцтву пагранічных і мытных службаў. Надалей застаецца адным з прыярытэтаў павышэнне плаўнасці пагранічнага афармлення на памежных кантрольна-прапускных пунктах і вызначэнне аптымальнай колькасці легкавых і грузавых машын, якія павінны быць адпраўлены на працягу адной змены. У сувязі з чэмпіянатам па хакеі, верагодна, трэба будзе запусціць на памежных польска-беларускіх пераходах спецыяльныя палосы для мытнага афармлення. Палкоўнік Міраслаў Дарашкевіч, намеснік каменданта падляшскай памежнай аховы пасля абмеркавання пытанняў на падкамісіі запэўніваў:

— Супрацоўніцтва нашай часці з гродзенскай і брэсцкай групамі адбываецца на рэгулярнай аснове. Рэакцыя ў любым выпадку павінна быць неадкладнай, ці гэта пры перасячэнні мяжы або зялёнай паласы. Супрацоўніцтва нашых службаў на добрым узроўні, і ўсе праблемы вырашаюцца на рэгулярнай аснове.

Звярнуў увагу:

— Мы хацелі б, каб памежны рух пешаходаў адбываўся на ўсіх нашых пагранпераходах.

Без сумневу, адной са службаў, якой праца на памежжы патрабуе пастаяннай каардынацыі, з'яўляецца пажарная ахова.



Злева: віцэ-міністр Васіль Сцепаненка і ваявода Мацей Жыўна

Аб тым, што абмяркоўвалася ў гэтым вымярэнні падчас белавежскага пасяджэння, паведаміў журналістам у яго перапынку Канстанцін Шаршуновіч, начальнік Упраўлення па надзвычайных сітуацыях у Брэсце:

— На працягу многіх гадоў нашы службы на пагранічны супрацоўнічаюць дабратворна. У нас ёсць прамы пастаянны кантакт адзін з адным і папярэджваем адзін аднаго аб небяспечных сітуацыях і дзеяннях, якія прымаем у надзвычайных сітуацыях. Асаблівая ўвага надаецца маладому пакаленню. З дапамогай калег з Польшчы завершаны праект у галіне грамадскай бяспекі па папярэджанні і ліквідацыі экалагічных катастроф у Еўрарэгіёне «Буг». У рамках гэтай дзейнасці мы пабудавалі будынак для мэтаў Міжнароднага цэнтра юных пажарных ратаўнікоў. Размешчаны ён у Брэсце. Якраз тады, калі сустрэлася наша падкамісія, група маладых людзей з Люблінншчыны праходзіць абучэнне. Аналагічны праект будзе рэалізаваны ў канцы года ў Польшчы.

Пасяджэнні падкамісіі праводзяцца па чарзе на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Наступнае пасяджэнне адбудзецца на тэрыторыі Гродзенскай вобласці ў другой палове гэтага года.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**


„Вербніца" і віртуоз баяна Іван Гвоздзік

# У гасцях у „Вербніцы"

**Восьмы канцэрт у гэтым годзе і пяцьсот сорак дзевяты ў сваёй гісторыі адзначыў у календары гайнаўскага „Рэха пушчы" Аляксей Харкевіч. Занатоўкі рабіў ён на пяць мінут да выступлення на сцэне Пружанскага палаца культуры.**


„Рэха пушчы" перад выхадам на сцэну



Гайнавян у Пружанах успрымаюць як замежную радню. Іх спалучаюць Белавежская пушча, мова, традыцыі і, найважнейшае, дваццацігадовае культурнае супрацоўніцтва. Тады як тут не запрасіць сяброў на вялікае, двайное мерапрыемства. Пружанскі канцэрт, прысвечаны дваццацігоддзю народнага хору „Вербніца" і Міжнароднага жаночага дня, канешне, адбыўся з удзелам гайнаўскіх спевакоў.

Як высветлілася, жаночы дзень праводзяць 8 сакавіка тут асабліва шумна. Нехта пачаў адзначаць яго ўжо 7, а нехта 6 сакавіка. З самага ранку можна было сустрэць пружанак у розным узросце — не вылучаючы дашкольніц з вялікімі, быццам шлюбнымі, букетамі кветак. Людзей у той дзень на вуліцах было няшмат, крамы таксама не працавалі. Мабыць, усё адбывалася ў хатніх абставінах. Калі каму з сям'-ёй не пашанцавала, мог прыйсці ў Пружанскі палац культуры і далучыцца да кампаніі „Вербніцы" і яе сяброў. Так і было, 99 адсоткаў публікі ў глядзельнай зале палаца складалі жанчыны, у асноўным бабулінага ўзросту. Шмат добрых, прыгожых слоў накіравалі да іх мужчыны — уладары горада. Але ж не на саміх, хаця надта міласпеўных, словах гэта ўсё завяршылася. Некаторым пружанскім настаўніцам, санітаркам і аграномам былі падрыхтаваны ордэны для маці і грашовыя ўзнагароды. Да слёз расхваляваліся ўзнагароджаныя. Пажаданні „каб ніколі нашым мамам не прыходзілася хаваць сваіх дзяцей забітых на войнах" узрушылі і ўсіх астатніх. Агульная атмасфера ў зале была настолькі хвалюючай, што заслужаная шматгадовая салістка „Вербніцы" ў час юбілейнага выступлення разгубілася ў словах песні.

„Гэта ж не повад, каб яе вінаваціць, — сцвярджае пасля канцэрта кіраўнік „Вербніцы", віртуоз баяна Іван Гвоздзік. — Я ўпэўнены, што другім разам яна выйдзе на сцэну і добра заспявае". Хор Івана Гвоздзіка ведаюць не толькі ў Беларусі. Неаднойчы выступалі яны з канцэртамі ў Польшчы. Вялікую папулярнасць здабылі таксама сярод надта расспяваных украінцаў. Ва Усеўкраінскім конкурсе аматарскіх харавых калектываў атрымалі Гран-пры і прапанову вялікага турнэ па гэтай дзяржаве. Перамагчы ўкраінцаў у спеве гэта неабыякавае дасягненне. Чым кіравацца ў штодзённай працы, каб атрымаць такія рэзультаты, распавёў нашым чытачам сам маэстра.

— На рэпетыцыях я дэспат, — пачынае наш суразмоўца. — У кіраванні хорам няма месца на дэмакратыю. Мусіць быць гаспадар. Інакш нічога не атрымаецца. Яны ведаюць, з „Гваздзём" не паспорыш.

Ёсць яшчэ адзін прынцып, мабыць самы важны: будзь прасцей і народ да цябе пойдзе. Спадар Іван нясе беларускую песню менавіта ў народ. Ён ладзіць, між іншым, тэматычныя сустрэчы ў пружанскіх школах і спявае на суботніках. За вялікі поспех лічыць выступленні „Вербніцы" на пружанскіх вяселлях. Ён задаволены, што людзі пачынаюць цікавіцца і адкрывацца на такога тыпу рэпертуар.

Цяпер найбольш залежыць яму на маладых харыстах. „Ад іх іншая энергія ідзе", — прызнаецца маэстра. З дзяўчатамі праблем не прадбачваецца. Найбольш складана прыцягнуць у хор хлопцаў. Патрабаванняў вялікіх тут няма. „Асноўнае, каб у маладога чалавека быў слых, — кажа, — а раскрыць голас я ўжо памагу". Сёння ў спадара Івана дваццаць сем заказаных у беларускую песню пружанцаў. У іх ліку — баяністка, скрыпачка, цымбаліст і бубнач. Яны выконваюць не толькі беларускі народны рэпертуар, але таксама сучасныя кампазіцыі. Іван Гвоздзік прызнаецца, што вельмі любіць пісаць музыку і гэтаму прысвячае шмат свайго часу. Толькі што завяршыў працу над аўтарскім зборнікам. Цяпер яго музыка пойдзе на ўсю Беларусь.

Маэстра расказаў таксама пра крыніцы свайго натхнення, якія знаходзяцца ў падпружанскай вёсцы Купічы. Там у 1950 годзе ён нарадзіўся, там жыў таксама яго дзед-цёзка — Іван Несцярчук.

— Дзед любіў спяваць. Найлепш гэта яму атрымлівалася ў дуэце з дваюрадной сястрой Надзеяй Маслоўскай. Я быў яшчэ малы, — успамінае Іван Гвоздзік, — і многа чаго не разумеў, але добра помню як у час сямейнай імпрэзы ад іх спеву патухла керасінавая лямпа. Калі спяваў дзед Іван, чулі яго ў суседніх вёсках.

Маці Івана, Вера, таксама спявала, але выключна ў хаце.

— Яна была сціплай жанчынай, нікуды не вылазіла. Ёй было не да гэтага. Пасля вайны трэба было падымаць гаспадарку, падымаць жыццё.

Але ж штодзённы мамін спеў глыбока ўлез у сэрца сына. У юнацтве Ваня сачыў пераважна за сусветнымі музычнымі трэндамі, прабаваў ігры на розных інструментах, у тым ліку гітары. Пералом да народнай творчасці наступіў у васьмідзесятых гадах, калі трыццацігадовы музыкант папаў на стажыроўку ў народны хор Цітовіча.

— Калі я пачуў іх спеў, — гаворыць суразмоўца, — уся папса, іграннe па дыскатэках, рэстаранах пайшло набок.

З Хорам Цітовіча звязаўся таксама сын Івана Гвоздзіка, Дзіма. Ён таксама баяніст, бакалаўр, выпускнік музычнай кансерваторыі, пажыццёвы, а перш за ўсё прафесійны дарадчык бацькі.

„Вербніца" і „Рэха пушчы" на працягу двух дзён амаль не разлучаліся. Супольныя спевы не згасалі ні ўдзень, ні ўначы з 8 на 9 сакавіка. Спявалі таксама ў аўтобусе, які зламаўся па дарозе дахаты. Не адну керасінавую лямпу маглі б там патушыць. Не згасне толькі агонь у сэрцах, распалены простымі і шчырымі гайнаўска-пружанскімі суадносінамі.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Як даехаць у Саўляны?

У Саўляны Супрасльскай гміны не ездзяць ні аўтобусы ПКС, ні аўтобусы прыватнага пасажырскага транспарту. Як тады даехаць у прыгарадныя (вёска гэтая пад Беластокам) Саўляны?

Ездзяць у Саўляны ды далей у Каракулі ды Цеснае аўтобусы нумар 13 Беластоцкай гарадской камунікацыі, але вельмі рэдка. Іх замала ў г.зв. працоўныя дні ды ў суботы і нядзелі. Найгорш пасярэдзіне дня. Выступаюць перапынкі ад пяці да сямі гадзін! У нядзелю едзе аўтобус з Беластока ў Саўляны а гадзіне 9 і наступны ажно а гадзіне 16.

Жыхары Саўлян пісалі петыцыі да бургамістра Супраслі. І што? Дык ужо калісьці пісаў у „Ніву" гумарыст Дзядзька Квас: „Нічога не атрымалася, быццам у ваду пёрнуў".

Сёлета будуць выбары ў самаўрады. У лютым гэтага года Саўляны наведаў бургамістр. На вясковым сходзе ён зноў пачаў гаворку пра дадатковыя аўтобусы, што сюдою паедуць аўтобусы лініі № 111 (яны ездзяць у Супрасль цераз Агароднічкі). Гаварыў так, як чатыры гады таму. „111-ткі" цераз Саўляны не паехалі. І зараз ніхто яму не паверыў. Быў падман і таму ўсе жыхары ўсумніліся ў поспеху справы.

Жыхары Саўлян (іх тут 320 чалавек) плацяць немалыя падаткі ў бюджэт гміны і хочуць мець, між іншым, лепшы даезд у горад. Хочуць выгадней і лепш жыць. У Саўлянах няма ж ні школы, ні пошты, ні крамы.

## Непарадкі

Зараз на аўтавакзале ПКС у Беластоку тратуарныя бетонныя пліты на ўсіх перонах няроўныя, разбітыя. Ідучы па пероне лёгка перакуліцца або скруціць нагу. Неабходна быць уважлівым і насцярожаным.

Другая справа — лавачкі на перонах. Яны прызабытыя, брудныя. З іх аблезла фарба месцамі да голага дрэва. Сцерлася фарба таксама з жалезных прутоў загарадак ды з поручняў. Па ўсім відаць, пра іх шэфы ПКС забылі і не аднаўляюць. І яшчэ адно. На перонах курцы кураць цыгарэты. Ад іх не абараніцца. Паліцыянта тут не сустрэнеш. Раней на кожнай стаянцы, на якую пад'язджаў аўтобус ПКС была сігналізацыя. Гарэла чырвоная электралямпачка. Калі прыходзіў час ад'езду аўтобуса, тады запальвалі зялёную лямпачку. Цяпер гэтая электраўстаноўка не дзейнічае. Заглухлі і мегафоны.

У руіну пападае падземны тунель, з якога вядуць усходы на пероны. Тут бывае зусім цёмна. У некаторыя дні ў тунелі нос затыкай, — такі тут цяжкі, невыносны смурод.

За непаладкі на аўтавакзале шэфам прадпрыемства ПКС у Беластоку належыцца чырвоная картачка! **(яц)**

## СПАЧУВАННІ

Войту Нараўчанскай гміны
**Мікалаю ПАВІЛЬЧУ**
словы шчырага спачування
з прычыны напаткаўшага
Яго гора
**— смерці Бацькі, Анатоля —**
выказвае
Фалькпорны калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова.

## СПАЧУВАННІ

Словы шчырага і глыбокага спачування войту Нараўчанскай гміны
**Мікалаю ПАВІЛЬЧУ**
з прычыны напаткаўшага гора
**— смерці Бацькі —**
перадаюць солтысы з усіх салэцтваў гміны.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




# Жанчыны! Жанчыны!

10 сакавіка 2014 года ў Гімнным комплексе школ у Міхалове мы святкавалі Міжнародны дзень жанчын. Ууу! Гэта для нас вялікае свята, бо ў нас... большасць дзяўчын.

Гімназісты падрыхтавалі вельмі вясёлае выступленне пад загалоўкам „Бабу прыслаў Бог". Прадстаўленне было смешнае і адначасова павучальнае. Увазе гледачоў прапанавалі добрыя і дрэнныя прыметы мужчын і жанчын — ад дагістарычных часоў па наш дзень. На беларускай мове дзяўчаты прадставілі Ніну і Таісу, якія карысталіся экалагічнай касметыкай. Іх сапернiцай была парыжанка, якая карысталася толькі фірменнай касметыкай. Міхалоўскім гледачам вельмі спадабаліся персанажы Ніны і Таісы, якія зрабілі сабе макіяж з мукі, бурака і чорнага вугалю. Тут найважнейшы быў гумар, падказка, што ніхто не з'яўляецца дасканалым.

**Тэкст і фота ГКШ у Міхалове**

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 12-14)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 23 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**

Лупавокая Матруна —
Вечна мокрая макруня,
Ды пакуль не стане печь —
Яшчэ можна і сцярпець,
А як песню завядзе —
Няма радачкі нідзе:
Хоць ты вушы затыкай
Ці за тры вярсты ўцякай.
(ж...)

**2.**

Ледзь вясна шчэ наступае —
Ён канцэрты пачынае.
Гучна льецца песня-свіст...
Як завецца той артыст?
(ш...)

Адказ на загадкі № 9: жаўрук, варона, чарапаха.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Інэз Дмітрук, Сандра Пятроўская з Орлі і Аня Бяляўская з Нараўкі. Віншуем!



# Наш 25 Сакавік!

У гэты дзень беларусы адзначаюць Свята Волі. Традыцыя нарадзілася ў 1918 годзе. Тады нашы продкі рашылі збудаваць незалежную Беларусь. У гэты дзень дабываем са скрыткі бел-чырвона-белы сцяг і аздабляем ім дом. Наш сцяг можна пабачыць на некаторых балконах у Беластоку. У гэты дзень шмат урачыстасцей. Сёлета Свята Волі пачнуць адзначаць ужо 21 сакавіка. У беластоцкім „Склепе з культурай" (ПШ № 4 у Беластоку) пакажуць фільм, прысвечаны Віктару Шведу. Наш любімы паэт будзе адзначаць дзень народзінаў! Два дні пазней, у нядзельку, традыцыйна ўжо адбудзецца малебен за беларускі народ. Беларусы прыходзяць у царкву цэлымі сем'ямі. Тут заўсёды шмат малеч і школьнікаў. Таксама цэлымі сем'ямі беластачане прыходзяць на галоўнае святкаванне. У гэты раз свята наладзяць у модным клубе-кавярні „Змена клімату". Апрача даклада запланаваны канцэрт цудоўнага Зміцера Вайцюшкевіча!



„Падляшскія хронікі" заехалі ажно ў Нью-Ёрк

Беластоцкія святкаванні завершацца 26 сакавіка — вечарам на падмостках Тэатральнай акадэміі паставяць культавыя „Падляшскія хронікі".

Упершыню ў навейшай гісторыі святкаванне наладзяць беларусы Сакольшчыны. Месца святкавання — Кузніца-Беластоцкая — невыпадковае. Тут менавіта нарадзіўся Язэп Варонка, першы кіраўнік Беларускай Народнай Рэспублікі. Разам з дакладам пра славутага ўраджэнца публіка пабачыць спектакль, падрыхтаваны Іааннай Стэльмашук-Троц і гайнаўскай моладдзю. Свята адбудзецца 29 сакавіка.

На 25 Сакавіка наша рэдакцыя атрымала спецыяльнае запрашэнне ў Бельскі белліцэй, дзе разам з моладдзю будзем прэзэнтаваць кніжкі, прысвечаныя Беларусі.

Вы таксама не забудзьце адзначыць Свята Волі ў сваёй школе.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Вецер і Сонца

Адазваўся грозны вецер:
— Наймацнейшы я на свеце!
Дзе дарогаю мужчына —
Сарву я вопратку са спіны!

— Дружа, хвастацца не трэба,
Адказала Сонца з неба.
Я сагрэю так мужчыну,
Што адзенне сам ён скіне.

### Агонь і Вада

— Агонь, калі гарыць,
Дае магутны жар,
Магу я спапяліць
Увесь зямны абшар!

— Нельга сябе хваліць,
Грозны сапернік мой.
Магу цябе заліць
Бурлівую вадой.

# НАШЫ ГЕРБ І СЦЯГ

*Старажытны беларускі герб «Пагоня», якому больш за 700 гадоў*

## Куды імчыць «Пагоня»

Вы, пэўна ж, ведаеце, які старажытны герб мае наша краіна?

Правільна, гэта конны рыцар з узнятым над галавою мечам.

А ці вядома вам, што такіх старажытных гербаў, як наш, на свеце не вельмі шмат. Мы, беларусы, ганарымся тым, што нашаму гербу болей за семсот гадоў. Ён узнік неўзабаве пасля таго, як утварылася Вялікае Княства Літоўскае.

Наш герб называецца «Пагоня». Адкуль такая назва? А вось слухайце.

Багатая беларуская зямля з яе гарадамі і вёскамі, з рыбнымі рэкамі і поўнымі звярыны лясамі здаўна прыцягвала прагныя позіркі чужынцаў. Яны хацелі захапіць Беларусь і часта нападалі на яе. 150 разоў урываліся сюды немцы-крыжакі. Каля сотні набегаў зрабілі татарскія аддзелы. Шмат гора прынеслі нашай Бацькаўшчыне войскі расейскіх цароў, якія лютавалі часам страшней за татараў.

Каб абараніцца і выжыць, беларусы заўсёды былі напагатове. Яшчэ з часоў славутага Усяслава Чарадзея існаваў такі звычай: пасля нападу на паселішча ўсе мужчыны, што маглі трымаць зброю, пешкі ці конна даганялі ворага, каб вызваліць палонных і паквітацца за забітых.

Гэты народны звычай называўся пагоняй. У Вялікім Княстве Літоўскім ён стаў законам.

У тыя далёкія часы мастакі і пачалі маляваць «Пагоню» — узброенага рыцара на белым кані, што імчыць на бітву за родную зямлю.

Сем з лішнім стагоддзяў таму апісанне «Пагоні» з'явілася ў летапісах. „Чалавек дарослы на кані з мечам, які можа абараніць Бацькаўшчыну сваю", — старанна выводзіў летапісец, гледзячы на старадаўні малюнак.

У левай руцэ вершнік трымаў шчыт. Трохі пазней на шчыце з'явіўся шасціканцовы крыж. Ён быў падобны да крыжа, што некалі зрабіў для асветніцы Еўфрасінні полацкі майстар Лазар Богша. Крыж гэты беларусы надта шанавалі, а таму ў жорсткай сечы ён дадаваў мужнасці слабейшаму, а моцнага ваяра рабіў яшчэ мацнейшым.

Згодна з законамі дзяржавы, «Пагоню» выразалі на пячатках, што цяпер па ўсёй Беларусі знаходзяць археолагі. Герб упрыгожваў гарадскія брамы і вежы, а таксама сцягі ваяводстваў, на якія дзялілася Вялікае Княства Літоўскае, як цяпер наша краіна дзеліцца на вобласці.

«Пагоня» была і на гербах некаторых беларускіх гарадоў.

## Пра што гавораць колеры

Дзяржаўныя гербы заўсёды каляровыя, прычым кожны колер абавязкова нешта значыць.

Герб старажытнай беларускай дзяржавы выглядаў як чырвоны ці, дакладней, пурпуровы шчыт з белай або срэбнай выявою рыцара. Шасціканцовы крыж на рыцарскім шчыце быў залатога колеру.

Цяпер паглядзім, што зашыфравана ў гэтых колерах, пра што яны нам гавораць.

Чырвоны колер нашыя прадзеды лічылі самым высакародным. Ён азначаў агонь, мужнасць, смеласць у бітве. Белы ці срэбны — гэта чысціня, дабро, свабода і незалежнасць. Золата крыжа казала пра жыццё, святло, надзею.

Трэба дадаць, што белы і чырвоны колеры беларусы асабліва любяць. Гэта відаць і ва ўзорах нашых дзівосных ручнікоў, і ў даўнейшым народным адзенні, якое, магчыма, яшчэ насілі вашы дзядулі і бабулі.

У беларускіх казках асілкі едуць бараніць свой народ ад злыдняў абавязкова на белым кані, што пасецца на запаведных лугах.

А цяпер паслухайце, як прыгожа пісаў пра «Пагоню» адзін стары беларускі часопіс: „Белы конь — гэта вобраз сілы, красы і здатнасці, адраджэння і ўваскрэсення да новага жыцця. Ваяка на белым кані азначае перамогу. Белы колер вельмі пашыраны на Беларусі, згэтуль, магчыма, паходзіць і яе назва — белая, чыстая, вольная, як святло сонца".

## Як нарадзіўся беларускі сцяг

Спачатку сцяг Вялікага Княства Літоўскага быў чырвоны з вышытымі на ім «Пагоняй» і Багародзіцаю з яе маленькім сынам Ісусам. Іншыя еўрапейскія краіны тады таксама мелі сцягі з рознымі складанымі выявамі. Але прыкладна пяцьсот гадоў таму сталі з'яўляцца сцягі больш простыя і зручныя. Найчасцей яны ўтвараліся так.

Гербавы малюнак змяшчалі на шчыце. Дык вось колер малюнка рабіўся галоўным колерам сцяга, а колер шчыта — дадатковым. Рыцар «Пагоні», як мы ведаем, быў белы, а шчыт, на якім ён намаляваны, — чырвоны.

Так і ўтварыўся беларускі белчырвона-белы сцяг. Яго колеры расшыфроўваюцца гэтаксама, як і колеры герба.

Даўней бел-чырвона-белыя сцяжкі развяваліся на дзідах у ваяроў, якія баранілі незалежнасць нашай краіны.

Калі вы пойдзеце з бацькамі ў царкву, дык убачыце бел-чырвона-белыя стужкі на адзенні ў святароў. Тут белы колер азначае чыстую душу чалавека, а чырвоны кажа пра пакуты і смерць Ісуса Хрыста, які сваёй крывёю пасеяў у людскіх душах слова праўды.

**Уладзімір АРЛОЎ „Адкуль наш род"**

*Уршуля МАРЧУК, Нарайка*

## Вясна

*Якi гэта радасны час!*
*Траўка зелянее,*
*Птушка весялей спявае.*
*Кветкі расцвітаюць,*
*Прамяні зямлю аграваюць,*
*Дзяцей на надворак*
*Запрашаюць.*

*Марта БОЎТРЫК, Шымкі, школа ў Міхалове*

## Дзяцел

*Дзяцел у дрэва*
*стукае-пукае*
*Сваёй цвёрдай дзюбай.*
*Чаго ён там шукае?*
*Хіба музыку складае!*

# Польска-беларуская крыжаванка № 12

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 8:

Рост, на, варыва, на, на, ар, сонца, як, вясна, Ака, гул, анёл, сок, анонс. Ранг, вус, сяло, нос, ванна, цана, арка, ён, ало, ваяр, марка.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі **Юлія Жукевіч** з Бабік, **Якуб Андрацкі** з Саколкі, **Якуб Матышак, Магдалена Гарустовіч, Аляксандра Юзафовіч, Дамініка Благушэўская, Міхал Тэляшэўскі** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Міхал Трусевіч, Юлія Стары** з Міхалова, **Кацярына Лаўрашук, Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Spoj-rzenie | | | | | | Błękit | Osa |
| | Mech / Miód | Siła | | Czerep / Makar | | Ech! | Panienka / Gdzie? | | | |
| | Sum / Wiąz | | | | | Dzik | | | | Dnie |
| Wiza / Wielkanoc | | | | | Dzień | | | | | |
| | | | | | | | | | | Bierz |
| Zorza | | | | | | | | | | |
| | | Krok | | | | | Ara | | | |



# 25 Сакавіка 1918-2014
# ДЗЕНЬ ВОЛІ

## ЗАПРАШАЕМ
**на святкаванні ў Беластоку**

**23.03.2014 (нядзеля)**

8[00] **Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5** — Св. Літургія, пасля першай Літургіі — малебен за беларускі народ

**25.03.2014 (аўторак)**

18[00] **Кафэ „Zmiana Klimatu" вул. Варшаўская, 6.**
У прagраме м.інш: гістарычная прэзентацыя, канцэрт беларускага барда **Зміцера Вайцюшкевіча** ў прагpаме **„Беларускі Шансон"**.

**Запрашаюць:**
Радыё Рацыя,„Ніва", АБ-БА, Беларускі саюз, Беларускае Гістарычнае Таварыства, БАС.

## ДЗЕНЬ ВОЛІ

Сакавік 2014г.

**ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!**

Зьвяртаюся да вас сёньня з трывогай на душы. Падзеі на Украіне паказалі сьвету да якой скрайнасьці Масква гатовая пайсьці, каб вярнуць імпэрыю. Не зважаючы на законы міжнароднага сужыцьця, на міжнародныя — ёю падпісаныя — дагаворы і на аднагалоснае асуджэньне ўсяго сьвету, Расея напала на суседнюю дзяржаву пад выдуманым прэтэкстам небясьпекі, якая, маўляў, пагражае «рускамоўнаму» насельніцтву гэтае дзяржавы. У трыццатыя гады напад на суседнюю дзяржаву пад падобным прэтэкстам быў першым крокам да найстрашнейшай сусьветнай вайны, якую перажыло чалавецтва.

Для Беларусі, маскоўская агрэсія на Украіну асабліва трывожная. Бо калі сьвет адэкватна не зарэагуе, мы можам стацца наступнай ахвярай маскоўскага імпэрыялізму. Прэтэкст будзе той самы: рускамоўнае насельніцтва Беларусі.

Дарагія Суродзічы! У 96-я ўгодкі нашага слаўнага 25-га Сакавіка, дзякуючы якому Беларусь яшчэ жыве, заклікаю вас годна адзначыць гэты Дзень. Гэтым вы прыпомніце сьвету, што і вы хочаце быць гаспадарамі на сваёй зямлі.

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, выказваю салідарнасьць з Украінскім народам і ягонымі героямі, якія сёньня змагаюцца супраць пуцінскай «імпэрыі зла». Не давайце рэжыму ўцягнуць вас у гэтую імпэрыю. Мы на баку цывілізаванага сьвету, а не дзікіх агрэсараў.

Дык слава Украіне ў змаганьні!
Жыве беларуская Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады БНР**

# Арлянская ДЭМАГРАФІЯ

Арлянская гміна займае плошчу ў 170 квадратных кіламетраў. У дваццаці двух салэцтвах, якія ахопліваюць дваццаць пяць мясцовасцей, у канцы мінулага, 2013 года пражывала 3010 асоб, у большасці пажылых людзей, а малалетніх (да васемнаццаці гадоў) было 380 душ (у 2006 годзе было 3440 жыхароў, у тым ліку 419 малалетніх). З 1988 года лік жыхароў гміны з кожным годам падае прыблізна на сто чалавек — гэта так, быццам за год прападала адна цяперашняя вёска.



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Лік насельніцтва гміны скарачаецца таму, што памірае амаль у дзесяць разоў больш асоб, чым нараджаецца. У мінулым годзе (да 5 лістапада) нарадзілася толькі трынаццаць дзяцей, у 2002 і 2003 гадах — па пятнаццаць, у 2004—11, у 2005—22, у 2006—19, у 2007 і 2008 — па 28, у 2009—16, у 2010—18, у 2011—21, у 2013 (да 5 лістапада) 13 дзяцей. Таксама мала маладых людзей засноўвае сем'і; у мінулым годзе было такіх 19 асоб з гміны, у 2011 (да 20 кастрычніка) — 21 асоба, у 2010—38, у 2009—40, у 2008—33, у 2007—35, у 2006—31 і ў 2005—29 асоб пастаянна прапісаных на тэрыторыі Арлянскай гміны. У будынку Гміннай управы скасавана ўжо зала шлюбаў і прыблізна ад чатырнаццаці гадоў гэтым велізарным памяшканнем карыстаецца войт — яно настолькі прасторнае, што можна там прымаць вонкавыя дэлегацыі, а часам (калі занята канферэнц-зала) свае пасяджэнні праводзіць там Гмінная рада.

Цяпер у гміне пражывае 57 дзяцей ва ўзросце да двух гадоў, васемнаццаці ідзе трэці год, чатырох- і пяцігодкаў — 44, шасцігодкаў — 30 і 17 сямігодкаў. Паводле інфармацыі Гміннай управы, у 2013/2014 навучальным годзе ў арлянскім комплексе школ вучыцца 199 вучняў і адно дзіця вучыцца па-за школай (для параўнання: у 2004 годзе было 256), з гэтага ліку 52 чатырох-, пяціі шасцігодкі, 93 у пачатковай школе + адно звонку школы ды 54 у гімназіі. Родную беларускую мову вывучаюць 75 вучняў (57 у пачатковай школе і 18 у гімназіі, г.зн. 33%). Усе першакласнікі пачатковай школы (12 асоб) вывучаюць беларускую мову.

У 1976 годзе ў Орлі пражывала паўтары тысячы людзей. У мястэчку налічваецца дваццаць пяць вуліц. У складзе салэцтва Орля і прысёлак Антанова-Калёнія (7 жыхароў). Па найбольшай з вуліц, Чырвонай Арміі (пры санацыі Пасвентна, а зараз людзі гумарыстычна называюць яе „вуліцай удавіц", таму што ад некалькіх гадоў пражываюць там амаль толькі адзінокія жанчыны) пражывае 193 жыхары (на дзень 30 чэрвеня 2012 г.); у 2004 годзе жыў там 191 чалавек, а невялікая розніца вынікла з пасялення новых жыхароў звонку. Па вуліцы Міцкевіча пражывае 149 чалавек (у 2004 годзе — 163), Бельскай — 108 (121), Кляшчэлеўскай — 101 (109)... Найменш людзей жыве па Спулдзельчай — дзве асобы, па Вузкай ды Жвіркі і Вігуры — па тры, Кароткай — 4, Кашалёўскай — 5, па Польнай, Канапніцкай і Ажэшкі — па 11...

З ліку 3010 жыхароў гміны 2611 паўналетніх, а ў іх ліку 769 жанчын, якім больш за шэсцьдзесят гадоў, ды 393 такіх жа мужчын. Непаўналетніх у гміне 399 асоб: 201 хлапец і 198 дзяўчын. У год нараджаецца 13-28 дзяцей, але невядома, колькі з іх пойдзе ў мясцовую школу, бо многія маладыя сем'і перабіраюцца ў гарады.

Паводле перапісу насельніцтва ад 5 студзеня 1945 года тадышняя вялікая Арлянская гміна (якая ахоплівала м.інш. Дубічы-Царкоўныя, Чыжы, Галады) налічвала 10 064 асобы, у тым ліку 9832 беларускай нацыянальнасці. І цікава, што ў тагачаснай вялікай гміннай управе працавала — як я дапытаўся ў старажылаў — толькі пяць асоб; і хапала, а цяпер (калі гміна ў тры разы меншая), працуе каля дваццаці асоб і ўсе яны маюць камп'ютары.

У цяперашніх межах Арлянская гміна найбольш жыхароў налічвала ў 1988 годзе (у самой Орлі жыло пад дзве тысячы жыхароў), але ўжо дзесяць гадоў пазней, у 1998 годзе амаль на тысячу менш — 3967 асоб, а годам да таго яшчэ 4091 чалавек. Лік насельніцтва надалей скарачаецца: у 2002 годзе было 3744 душ, у 2003—3690, у 2004—3618 (дзесяць гадоў раней, у 1994 годзе — 4688), 1 студзеня 2005 года — 3636, 2006—3542, 2007—3478, 2008—3423, 2009—3374, 2010—3306, а ў канцы 2011 года — 3130, у канцы 2012 года — 3072 і ў канцы 2013 года 3010 жыхароў.

Найбольшай мясцовасцю гміны астаецца сама Орля, у якой на дзень 30 чэрвеня 2012 года пражывала 916 асоб, а ў канцы мінулага 2013 года ўжо 907 асоб (столькі ж было і ў канцы 2006 года). Чарговай па велічыні вёскай з'яўляюцца Кашалі (распаложаныя побач Орлі і калісь былі прымеркі далучэння іх да Орлі ў якасці прыгарада Кашалі-Зарэчча, а сама Орля мела стаць горадам). У Кашалях пражывае 247 чалавек (у 2006 годзе было 277), у Малінніках (з прысёлкам Баранаўцы-Калёнія з двума жыхарамі) — 188 (232), у Крывятычах — 155 (180), у Дыдулях — 148 (173), у Міклашах — 126 (151), у Рыгораўцах — 124 (153), у Вульцы-Выганоўскай — 118 (130), у Градалях — 111 (134), у Пашкоўшчыне — 109 (126)... Ужо на гэтых прыкладах відаць, што не ўсе вёскі абязлюдзелі аднолькава. Найхутчэй падае лік насельніцтва ў малых вёсках і калёніях; найменшыя зараз Баранаўцы-Калёнія — 2, Антанова — 9, Алекшы — 11, Круглае — 13, Паўлінова — 18, Чахі-Забалотныя — 22, Вулька і Москаўцы — па 26 душ.

У Польшчы пражывае за дзве тысячы асоб, якім за сто гадоў і іх лік з гадамі расце; найбольш іх у Падляшскім ваяводстве. А арляне вельмі рэдка дажываюць такога ўзросту. 17 мая 2006 года памерла Параскева Яфімчук з Москаўцаў, якая пражыла 102 гады. Столькі ж гадоў (а паводле некаторых і больш) пражыў Пятро Кубаеўскі з Орлі, які, мабыць, жыў бы даўжэй, калі б не ўпадак у пасляваенных гадах. У Арлянскай гміне жыве шмат асоб, асабліва жанчын, якім больш за дзевяноста гадоў; некаторыя дажываюць амаль да сотні.

Таксама ў Арлянскай гміне шмат сужонстваў, якія пражылі разам больш за пяцьдзесят гадоў. У мінулым годзе такіх юбіляраў, якіх узнагародзілі медалямі 50-годдзя з дня шлюбу, было дзевяць пар, у 2012—19, у 2011—13, у 2010 і 2009 — па 18 пар, 2008—17, 2007—18, 2006—23, 2005—18, у 2004—19 пар. У 1990-1997 гадах управа Арлянскай гміны занядбоўвала такія адзнакі і ўзнавіла іх уручанне пасля маіх захадаў.

Шмат таксама ў гміне асоб, якія пражылі больш васьмідзесяці гадоў. Усе гэта, аднак, людзі з г.зв. натуральнай селекцыі — раслі яны ў цяжкіх умовах, калі медыцына была на ніжэйшым чым сёння ўзроўні і выжывалі толькі найздаравейшыя.

Непакоіць вялікая смяротнасць людзей у самай сіле, каля пяцідзесяці гадоў, адных ад перапою, а іншых у выніку прафілактычных медыцынскіх занядбанняў, калі, напрыклад, паяўляюцца пераносы ад запозна выкрытага рака. Мяркуючы пра пажылых людзей, маладыя гавораць, што яны такога веку не дажывуць, бо калісь яда была натуральная, а сёння ў ёй шмат штучнай хіміі.

Можна, аднак, заўважыць, што людзі ў малых мясцовасцях старэюць памалей чым іх равеснікі ў больших гарадах. Тут жанчыны не карыстаюцца касметычнай хіміяй так часта як гарадскія. Помню аднаго журналіста з цэнтральнай Польшчы, які не даваў мясцовым суразмоўцам, калі яны называлі свой узрост; лічыў ён іх малодшымі.

Якая будучыня чакае Арлянскую гміну, асабліва яе будынкі і зямлю? Я, як мясцовы жыхар, мяркую, што калі нішто не зменіцца, то на працягу найбліжэйшых дзесяцігоддзяў многа вёсак можа зусім апусцець, ды і ў Орлі астанецца мала жыхароў. Захаваныя задбаныя будынкі стануць дачамі нашчадкаў сённяшніх іх уласнікаў. Большая частка тэрыторыі гміны стане няўгоддзямі і мабыць зарасце самасейным лесам. Дарэчы — ужо зарастае, бо ідучы ад Орлі ў бок Рудут можна дайсці лесам у самую Белавежскую пушчу, а я са свайго панадворка мог бы лесам дайсці ў Галады і далей.

Няўмольна скарачаецца лік насельніцтва, але пра самую Орлю можна сказаць, што тут быццам усё нармальна. Тут на працягу стагоддзяў — нават калі Орля была горадам — пражывала вельмі мала хрысціян. Пры санацыі на агульны лік дзвюх тысяч арлян ледзь пятую частку складалі хрысціяне, якія займалі каля сотні хат; большасць жыхароў Орлі складалі яўрэі. Лік карэннага арлянскага насельніцтва пачынае апісваць круг.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Вечар паэзіі ў Семяноўцы

Вечарам 28 лютага гэтага года ў святліцы ў вялікай вёсцы Семяноўцы (Гайнаўскі павет) весела іграла музыка. Чуваць яе было на панадворку. Плылі беларускія песні. А гадзіне 17 мелі прыехаць беларускія паэты і дырэктарка Гміннага асяродка культуры (ГАК) у Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. Афішы пра мерапрыемства былі павешаны не толькі ў Семяноўцы. Былі на дошках аб'яў і ў Старым Ляўкове.



На здымку злева: Вера Радзіванюк, Ала Ясвіловіч, Галіна Бірыцкая, Мікалай Варанецкі, Кастусь Целушэцкі і Аляксандр Радзіванюк.



Дуэт „Маня і Ваня" з Семяноўкі

Семяноўка займае другое месца па колькасці жыхароў у Нараўчанскай гміне (тут пражывае 412 асоб). Назва вёскі прынялася ад асабовай назвы Сямён (царкоўнае Сімеон).

Вечар паэзіі вяла дырэктарка ГАК Галена-Марыёля Рэент. Яна коратка расказала пра Веру Радзіванюк, Галіну Бірыцкую, Алу Ясвіловіч, Мікалая Варанецкага, Янку Целушэцкага, Кастуся Целушэцкага і Аляксандра Радзіванюка. Яна для некаторых з іх была натхненнем да пісання вершаў. Усе яны жывуць у розных вёсках Нараўчанскай гміны.

У Семяноўку паэты прыехалі са сваімі вершамі і лірычнай прозай. Іх творы прысутныя прынялі сардэчна і цёпла. Вершы лірычныя, рэфлексіўныя, прыродаапісальныя і гумарыстычныя ды на актуальныя тэмы ўсім спадабаліся. Былі таксама вершы пра Семяноўку, якая сёлета будзе святкаваць 380-годдзе свайго існавання. Аўтары ўласнаручна перапішуць іх і перададуць у святліцу і ў бібліятэку. Зацікаўленне было. Выступленні паэтаў узнагароджваліся воплескамі. Як ім тут не цешыцца.

Калі ўсе беларускія аўтары прачыталі па тры свае творы, выступіў з беларускімі, украінскімі і рускімі песнямі дуэт „Маня і Ваня" з Семяноўкі (яго завадатар Янка Шыманюк). У яго выкананні прагучалі, між іншым, „Ой там у полі, у полі", „І туды гара і сюды гара", „Ой у гаю пры даліне" ды „Там у лесе на грудочку".

Затым аўтары зноў чыталі свае творы. Хто не мае яшчэ сваіх зборнікаў, чытаў свежанадрукаваныя са старонак „Нівы" (наш беларускі тыднёвік найчасцей іх першадрукар). Паслухаць вершы прыйшлі перш-наперш прадстаўніцы прыгожага полу. Усе яны былі па-святочнаму ўбраныя і ўпрыгожаныя (ох, тыя жанчыны). Яны чакалі такой сустрэчы. На ёй упершыню даведаліся пра тое, што жыхарка іх вёскі Ала Ясвіловіч піша прыгожыя вершы на беларускай і польскай мовах.

Цікава ім было пазнаёміцца і з іншымі паэтамі. Янка Целушэцкі прывёз і перадаў у семяноўскую бібліятэку (а раней у стараляўкоўскую і нараўчанскую) зборнік вершаў „Полымя роднае" Уладзіміра Гайдука (ён нядаўна памёр) з калёніі Полымя каля Тарнаполя. Мясціна гэтая непадалёк ад Семяноўкі. Удзельнікі вечарыны хацелі б, каб такіх сустрэч у іх святліцы было больш. Тут мала хто ведаў, якія вершы пісаў іх зямляк Валодзя Гайдук. А ён жа аўтар зборнікаў „Ракіта", „Блакітны вырай" і „Пах аернага хлеба".

Гасцей пачаставалі салодкім піражным, кавай і гарбатай. Было і віно. Пра ўсё паклапаціліся Галена-Марыёля Рэент, Галіна Панькоўская (кіраўнічка мясцовай святліцы і бібліятэкі), Барбара Бірыцкая і іншыя жанчыны. Яны падрыхтавалі выстаўку вышываных ручнікоў, якія прывезла з сабою вядомая на Гайнаўшчыне і не толькі тут гафтавальшчыца Галіна Бірыцкая (яна з вёскі Плянта). Пра яе вышываныя іконы, ручнікі і макаткі ды карункавую вытворчасць неадноўчы пісала „Ніва".

У гэтым годзе гэтая таленавітая жанчына пачала пісаць вершы. Яна ў свае самыя раннія гады сябравала з Верай Радзіванюк. Дагэтуль не ведала, што Вера піша — як сказала — прыгожыя вершы. Яны ёй вельмі даспадобы. Першы раз пачула іх па беластоцкім тэлебачанні. І сама пачала пісаць... Пра тое, што ёй блізкае і дарагое.

Спадарыня Галіна па сённяшні дзень зберагае як самы дарагі талісман свой школьны падручнік па беларускай мове „Роднае слова" 1949 года выдання. Ставіцца да яго з вялікім сентыментам і любоўю. Цяпер прысвяціла яму адзін са сваіх прыгожых вершаў. І чытае яго падчас аўтарскіх сустрэч. І кожнаму навявае — пэўна толькі мілы і дарагі — успамін пра свае юнчэўскія менш ці больш далёкія гады. Вяртае ў маладосць, а яна як бясхмарнае неба.

Быў перапынак. І — для ўсіх была гэта вельмі прыемная неспадзеўка — выступіў з беларускімі песнямі квартэт з Чыжоў! Ён спецыяльна сюды прыехаў на літаратурную вечарыну. Мешаны гурт у беларускіх касцюмах іграў і спяваў песні „Гарэла сосна, палала", „Бабка Еўка, дзед Тамаш" і іншыя. Яны сказалі, што неўзабаве будуць называцца „Верасы" (квартэт ужо прыдумаў і выбраў такую прыгожую назву). Узрушаныя спевамі літаратары Нараўчаншчыны выказваюць ім шчырую падзяку за прыезд, мілагучныя песні ад душы і жадаюць поспехаў — маючы магчымасць — дык на старонках роднага часопіса — „Нівы".

Сёлета з нагоды юбілею Семяноўкі будуць ладзіць у вёсцы розныя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. Між іншым, мае быць сустрэча мясцовых жыхароў з вядомым беластоцкім гісторыкам праф. Адамам Дабронскім (якія цікавінкі ён распавядзе пра Семяноўку) ды з аўтарам кніжкі з цікавымі легендамі (у тым і пра Семяноўку) Юрыем Шыманюком.

Запланавалі выстаўкі ў самаўрадавай святліцы мясцовых творцаў: выстаўку карцін Анатоля Аніскевіча ды макатак, якія намаляваў Янка Мароз. Зараз пасля Вялікадня прадбачылі святочна-рэлігійнае мерапрыемства з удзелам мясцовага святара Мікалая Шабеляна для ўсіх тутэйшых жыхароў. Летам, 9 жніўня (на Панцеляймона) ужо традыцыйна адбудзецца беларускі фэст. У гэтым годзе падчас святкавання арганізатары запланавалі цікавыя конкурсы з навейшай гісторыі вёскі ды пра сваіх людзей, у тым ліку настаўнікаў, радных і солтысаў.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# На хатні розум

Нядаўна здарылася мне быць на адным навукова-папулярным мерапрыемстве. Яго ўдзельнікам, апрача папулярна-навуковай стравы, была прадбачана і страва стрававальная. Паміж першай і другой ёсць істотная розніца: колькасць першай у канферэнц-зале непадзельная, затое другая патрабуе дыстрыбуцыі, у прынцыпе больш-менш аднолькавай колькасці на кожны стрававод. Калі ёсць нейкая сарока-варона, што тую кашку дзеліць паводле больш-менш вядучых у нас эгалітарных прынцыпаў, дык кожнаму стравакоду нейкія калорыі трапяцца; у папулярнай дзіцячай лічылцы бывае інакш, але гэта гульня, якая рыхтуе малечаў да сур'ёзнага дарослага жыцця. І калі кэйтэрынг даставіць страву ў адным агульным карыце, а баечная сарока-варона адсутнічае, тады наш агульны народ, у тым ліку і папулярна-навуковы, задзейнічае... Можа некаторыя філосафы лічаць чалавека — таго *Homo sapiens* — істотай адоранай нейкай выключнай духоўнасцю, аднак жыццё кіруецца простымі Дарвінавымі законамі — дапаўшы да карыта той *Homo* хапае ўсё. Гэты *Homo domesticus* найчасцей асацыюецца не з папулярна-навуковым народам, але з папулярнымі ў тутэйшасці палітычнымі вярхамі. Добра гэта відаць, калі глянуць на цяперашнія — пакуль што — украінскія *Крэсы*. Для прыкладу — Крым, але ў любы момант такім прыкладам можа стаць любая іншая тэрыторыя.

У XVI стагоддзі дыпламатычныя адносіны паміж Крымскім ханатам і Масквой ладзіліся з татарскай дамінацыяй. Ва ўзаемных дыпламатычных дакументах тытул хана тады ставіўся перад вялікакняжым ці царскім. На ўрачыстых прыёмах першы тост выносіўся ў гонар хана, перад царскім. Да таго ж маскоўскія паслы ў Крым перадавалі хану „чалабіцце", замест звычайнага „паклону", які пасылаўся тады іншым манархам, у тым ліку і турэцкаму султану, які быў сюзерэнам крымскага ўладара! Каб маскоўскі вялікі князь Іван III мог называць хана Менглі-Гірэя братам, апошні патрабаваў ад першага сокалаў, футраў, маржовых касцей, сярэбранага посуду. Маскоўскім паслам, якія ішлі да хана на аўдыенцыю, ханскія дваране кідалі пад ногі свае посахі, патрабуючы ад першых платы за права тыя посахі пераступіць, асабліва ж собалевых шкурак для насельніц сваіх гарэмаў. А калі тыя патрабаванні не былі задаволены, тады паслоў, бывала, крымскія апрычнікі бралі пад замок, марылі голадам і смагай, забіралі коней...

Час змяняўся і ўжо ў канцы XVIII стагоддзя Крым трапіў пад маскоўскае панаванне. Царыца Кацярына II у 1787 годзе асабіста наведала новыя тэрытарыяльныя здабычы, у тым і 19 мая ўехала ў Крым, дзе яе прывітаў ганаровы канвой знатных татарскіх вяльможаў, супраавджаючы яе ў Інкерман — так тады называўся сённяшні Севастопаль, — куды царская калона з'явілася тры дні пазней. Царыца — Клеапатра Поўначы, як яе называў французскі пасол Сегюр, які быў у свіце імператрыцы — прабыла на Крыме пяць дзён, падаючыся далей у зваротнае падарожжа ў Пецярбург. Спачатку, пасля апанавання рускімі Крыма, шматлікія татары з боязі перад новымі ўладарамі падаліся ў бежанства, пераважна ў Турцыю, але царыца старалася гэтаму супрацьдзейнічаць, строга забараняючы якіх-небудзь здзекаў над карэнным насельніцтвам. Яна здорава аблаяла згаданага Сегюра, які са сваім таварышам асмеліўся падглядаць крымскіх жанчын: „Вы сярод народа, пакананага маёй зброяй, і я патрабую, каб вы шанавалі яго законы, веру, абычаі і забабоны". Чарговая хваля татарскага бежанства выпала пасля Крымскай вайны ў выніку не надта карэктных адносін да іх рускай ваеншчыны і чарговы цар быў вымушаны ўводзіць у тагачаснае ягонае войска адпаведныя парадкавыя меры. Пасля Другой сусветнай вайны Сталін выселіў крымскіх татараў ва Узбекістан... У XVIII стагоддзі татары складалі каля дзевяноста адсоткаў крымскага насельніцтва, у 1850 годзе — амаль восемдзесят працэнтаў, у 1864 годзе — каля паловы, у 1939 годзе — каля дваццаці адсоткаў, у 1979 годзе — менш аднаго працэнта і зараз — пасля вяртання са ссылак у постсавецкі перыяд — крыху больш за дзесяць працэнтаў насельніцтва Крыма. Сёння лёс крымскіх татараў крыху падобны на лёс косаўскіх сербаў, толькі тым першым не вельмі куды дзецца...

Царыца Кацярына II, якая далучыла Крым да Масквы, атрымала ад сваіх падданых званне Вялікай. Мікіта Хрушчоў, які Крым адлучыў ад Масквы, лічыцца „Малым". Калі б гэта зрабіў „Вялікі" Сталін, які падмяў пад Маскву трацiну свету, дык, мяркую, сёння расіяне не пасмелі б аспрэчваць ягонага такога рашэння. Бо ў нашай тутэйшасці, тутэйшасці *Homo domesticus*, „вялікі" той, хто ўхопіць з карыта найбольш — гэта герой. Пуцін хоча быць героем, хоча быць „Вялікім", як Сталін...

Русакосая Юлія Цімашэнка, калі нядаўненька пакінула турму, заклікнула да расправы са сваімі праціўнікамі. Нэльсан Мандэла, які прасядзеў у турме бадай у дзесяць разоў даўжэй чым часовая кумірка нашай Еўропы, не набраўся за той час нянавісці. Нэльсан Мандэла быў чалавекам разумным — *Homo sapiens*...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Усе тутэйшыя ў Казанэцкага

Аўтары ўсіх трох намінаваных да 23 выпуску Літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага кніг (Ян Камінскі **«Czas Budzika»**, Ігнат Карповіч **«Ości»**, Кацярына Дрога **«Pokolenia — czas deszczu, czas słońca»**) падчас сустрэчы некалькі тыдняў таму пры прасоўванні сваіх раманаў заяўлялі, што прэмія імя Казанэцкага асабліва важная для іх, таму што яны ўсе — тутэйшыя.

У гэтым годзе заявак на прэмію за лепшую кнігу 2013 года было 17. У пачатку сакавіка Капітул прэміі ў поўным складзе (Дарыюш Кялчэўскі, Марэк Каханоўскі, Катажына Савіцкая-Мяжынская, жонка паэта Галіна Казанэцкая, Марта Гусьнёўская, Яраслаў Кляйноцкі з Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча ў Варшаве, Юстына Сабалеўская) са спісу намінацый рэкамендавалі сваіх кандыдатаў на прэмію і прадставілі сваё меркаванне на разгляд прэзідэнту Беластока. Цырымонія адбылася 7 сакавіка.

Літаратурная прэмія прэзідэнта горада Беластока — за лепшую кнігу года — прысуджаецца аўтарам, якія звязаны з літаратурай Беластока і рэгіёна або тым, хто нарадзіўся тут, пражывае, чыя дзейнасць мае дачыненне да горада і ваяводства, а таксама аўтарам, чые кнігі былі апублікаваны ў Беластоку. Прэмія прысуджаецца аўтарам лепшых кніг усіх жанраў. Выключаны з удзелу анталогіі, даследаванні і навуковыя публікацыі. Прэмія прысуджаецца за кнігі, выдадзеныя ў перыяд з 1 студзеня па 31 снежня каляндарнага года, які папярэднічае ўручэнню ўзнагароды, таксама за кнігі ў электронным выглядзе. Не ўключаюцца пад развагу рукапісы кніг. Лаўрэатам Літаратурнай прэміі за 2012 год быў Кшыштаф Гедройць за кнігу **„Piwonia, niemowa, głosy"** (за выяўленне карціны пасляваеннай рэальнасці Беластока, на „беластоцкай" мове). Два аўтарынамінанты да гэтага часу выйгралі ўзнагароду імя В. Казанэцкага ў некалькі раз: Ігнат Карповіч -тройчы: за **„Balladyny i romanse"**, **„Gesty"** і **„Nowe kwiaty cesarza"**, а Ян Камінскі — за **„Książkę meldunkową"**. „Горкая антыўтопія — партрэт горада і гісторыі кахання, якое выходзіць за рамкі традыцыйнай мадэлі" — гэта лепшая кніга мінулага года ў Беластоку, **„Czas Budzika"** Яна Камінскага з Ярылаўкі і Беластока ды **„Ości"** Ігната Карповіча са Случанкі і Варшавы (і ўсяго свету). Апошні, дзякуючы за ўзнагароду, пажартаваў, што „ў будучыні, у правілы яе назначэння павінен быць дададзены пункт, што вылучэння больш не павінны атрымаць аўтары лепшых кніг, чые прозвішчы пачынаюцца з літары К. І калі ў будучыні яшчэ раз я не знайду сябе сярод намінантаў, апынуся ў дэпрэсіі!" На цырымоніі ўзнагароджання прэміяй у пятнічны вечар 7 сакавіка ў цэнтры імя Заменгофа Камінскі, на жаль, не з'явіўся — у той дзень трапіў у бальніцу. Прэмію перадалі ў рукі кнігавыдаўцу Андрэю Каліноўскаму, кіраўніку Выдавецкага фонду „Суседзі". Сёлета аж тры кнігі гэтага выдавецтва былі прадстаўлены да прэміі — апрача пераможнай кнігі Яна Камінскага, яшчэ кнігі Пятра Брысача пра Усход і Ганны Кандрацюк-Свярубскай пра Беларусь, якія моцна адзначылі сваё месца ў літаратуры ўсёй краіны.

Пераможцы — з рук намесніка прэзідэнта горада Аляксандра Сасны — атрымалі адмысловую статуэтку і 16 000 злотых. Камінскі — „за паспяховую спробу стварыць міф пра горад „Чорны" — горкі партрэт горада Беластока і персанажы, шукаючыя сваёй ідэнтычнасці", а Карповіч — „за смеласць прадстаўлення ўтопіі і дасціпны апавед аб розных аспектах кахання". У трох намінаваных можна рассакрэціць людзей і падзеі, якія кранулі не адно пакаленне тутэйшых. Камінскі малюе Беласток перш за ўсё з сацыялізму, але гісторый, якія пераплятаюцца ў гэтым паліфанічным рамане, шмат; паяўляюцца зашыфраваныя асобы, але і поўнасцю названыя, як, скажам, Сакрат. Хаця ў **„Ościach"**, у сваю чаргу, больш паказваецца жыццё ў сучаснай Варшаве з яе своеасаблівымі меншасцямі. Ігнат Карповіч цяпер піша новую кнігу пад загалоўкам „Сонька" — і тут ён абяцае ў шырокім абсягу выступленне цалкам тутэйшых — беластоцкагарадоцкіх — постацей і тыпаў. Хаця героі кнігі, бывае, павядуць сваю гісторыю цалкам па-свойму, часам зусім насуперак аўтару і яго задумам!

**Міра ЛУКША**


Фота Міры ЛУКШЫ

Ігнат Карповіч са Случанкі — лаўрэат прэміі Казанэцкага ў чацверты раз




Аб сайтах беларускіх фальклорных гуртоў „Ніва" пісала неаднойчы. Частка такіх інтэрнэт-бачын ужо не існуе, як і не існуе гуртоў. А вось з некаторымі з іх адбыліся змены, што стала заўважна па сайтах. Адным з такіх прыкладаў з'яўляецца этна-фолькгурт „Гуда", пра сайт якога мы пісалі 23 лістапада 2008 года. Тады сайт гурту месціўся па адрасе http://guda.fromby.net, але цяпер там нічога няма, бо віртуальнае прадстаўніцтва „Гуды" пераехала на сайт **http://guda.by**, выяўленне якога поўнасцю іншае ад папярэдняй „гудаўскай" інтэрнэт-бачыны.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары новы адрас гурту, то перад яго вачыма адкрыецца нязвыкла арыгінальнае бела-зялёнае выяўленне. Назва гурту падаецца пасярэдзіне цэлага выяўлення вялікімі літарамі. Уверсе і ўнізе месціцца выйсці на рубрыкі сайта, аздобленыя фотаздымкамі.

У параўнанні з папярэднім сайтам „Гуды" тут няма разнамоўных версій — усё выключна па-беларуску. У той жа час некаторая інфармацыя з першаснай інтэрнэт-бачыны перайшла ў другую, прычым без зважання на бег часу. Як у 2008 г., так і цяпер мы чытаем пра гурт, які ўтварыўся „больш за 10 гадоў таму". Таму даведацца пра нешта новае, што адбылося за прайшоўшыя пяць з паловай гадоў, на старонцы „Пра гурт" практычна немагчыма. Выключэннем, праўда, з'яўляецца тое, што ў адной з яго спявачак нарадзіўся сын.

Адлюстроўваючай жыццё „Гуды" можна назваць рубрыку „Навіны", выйсце на якую месціцца ў левым верхнім вугле цэлага выяўлення. Тут можна даведацца пра канцэрт-прэзентацыю праекта „Вяселле", дзе „сцісла і метафарычна паказаныя асноўныя моманты традыцыйнага беларускага вяселля пад адпаведныя спевы". Праўда, у які год адбывалася гэтая прэзентацыя даведацца немагчыма, бо акрамя чысла і месяца больш пра дату нічога не паведамляецца. Гэта, дарэчы, адзін з найвялікшых недахопаў дапушчаны ўладальнікамі сайта, бо калі не пазначаць год, то навошта ўвогуле пісаць пра нейкія чыслы і месяцы — ніхто і так не будзе ў стане атаясаміць гэта з падзеямі хуткацечнага жыцця.

Старонка „Аўдыё" дае нам магчымасць не толькі праслухаць песні, якія спявае „Гуда", але і спампаваць упадабаныя кампазіцыі. Аднак, варта адзначыць, што там іх няммнога — усяго толькі восем песень.

Паглядзець на выступы спевакоў „Гуды" альбо агучаныя іх песнямі кліпы можна на старонцы „Відэа". Тут найбольш цікавым падаецца кліп на песню „За горэю крэмянэю". „У Беларусі распавядалі аб русалках, часцей, як аб маладых прыгожых дзяўчатах, аголеных або апранутых у белае адзенне, якія з'яўляліся вясною і ў часе красавання жыта. Русалкі — не толькі ахоўніцы збажыны, якімі палохалі дзяцей, каб тыя не хадзілі таптаць жыта, але і ўвасабленне самога поля, яго жыццёвай сілы. Калі зжыналі жытняе поле, паміраў і яго дух. Паміраў, каб на новае лета нарадзіцца ізноў. Незвычайна прыгожае і старажытнае міфалагічнае ўяўленне легла ў аснову кліпа. Усе ролі выканалі спявачкі гурту „Гуда", — так распавядаецца пра даны кліп, які паказвае старажытнае жніво з сучаснымі відэаэфектамі.

Удзельнікі гурту не прадстаўляюцца, але на старонцы „Кантакты" яны прапануюць зацікаўленым звязвацца з імі праз электронную пошту альбо адрасы ў сацыяльных сетках.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Забыты кампазітар | 120 гадоў з дня нараджэння

# Альбіна Стаповіча

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст Альбін Стаповіч нарадзіўся 18 сакавіка 1894 г. у вёсцы Барані Свянцянскага павета (цяперашні Астравецкі раён). Шырокаму колу больш вядомы яго родны стрэйшы брат — беларускі каталіцкі святар і паэт Казімір Сваяк (Кастусь Стаповіч). Альбін жа пакінуў таксама яскравы след у беларускай культуры.

Альбін Стаповіч пачатковую адукацыю атрымаў у мястэчку Жукойні. Далей навучаўся ў кансерваторыі Монтвіла ў Вільні, дзе настаўнічаў кампазітар Людвік Рагоўскі. Пасля працаваў у Цеханоўцы на Беласточчыне. Потым паступіў у Казанскі ўніверсітэт. Кіраваў касцельным хорам у Казані (1913-1921). Пасля вярнуўся ў Вільню. Навучаўся ў Віленскім універсітэце. У 1922 г. кіраваў беларускім хорам. Выкладаў музыку ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1923 г. увайшоў у рэвізійную камісію Студэнцкага саюза. Адзін з заснавальнікаў Беларускага кааператыўнага земляробча-прамысловага банка.

У 1926 г. стаў сакратаром Віленскага кола Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГіК). У 1930-1934 гг. — намеснік старшыні, старшыня Віленскага кола БІГіК. Кіраўнік беларускага хору пры ім. Актыўны сябра Беларускай хрысціянскай дэмакратыі — у 1926 г. — сакратар, 1927-1930 — віцэ-старшыня. З траўня 1926 г. — кіраўнік Беларускай друкарні імя Францішка Скарыны. Удзельнік з'езду Сялянскага саюза 24 сакавіка 1926 г. Нейкі час (1927-1928) рэдактар „Беларускай крыніцы". У 1928-1930 гг. — пасол Сейма (абраны ад Блока нацыянальных меншасцей), сябра Беларускага пасольскага клуба. У 1930 г. намеснік старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1930 г. спрабаваў стварыць уласную палітычную партыю Беларускіх незалежных радыкалаў. Яшчэ пазней кіраваў беларускім хорам пры касцёле св. Мікалая ў Вільні. Працягваў дабрачынную дзейнасць на пасадзе сакратара Камісіі помачы галадаючым беларусам пры рэдакцыі часопіса „Самапомач", быў ініцыятарам і арганізатарам вольных дыскусійных вечароў, вядомых як „Пятніцы"...

Альбін Стаповіч друкаваўся таксама пад псеўданімам Уладзімір Загорскі. Ён аўтар некалькіх беларускіх песень, у тым ліку гімна БІГіК „Дзе чутны мовы нашай гукі". Друкаваўся ў разнастайных беларускіх выданнях: „Наш шлях", „Крыніца", „Родныя гоні", „Нёман", „Новы шлях", „Шлях моладзі", „Самапомач". У 1935 г. пабачыў свет яго спеўнік **„Za Baćkaŭščynu"**, выдадзены ў Вільні БІГіКам накладам 1000 асобнікаў.

Памёр Альбін Стаповіч 18 снежня 1934 г. пасля цяжкай хваробы сэрца. Вестка пра яго смерць абляцела ўсю Вільню. Жалобнае набажэнства правёў кс. Адам Станкевіч. Пахаваны Стаповіч у Вільні на вядомых могілках Росы на так званай Літаратарскай горцы побач з братам. Літаратурная і іншая спадчына Альбіна Стаповіча расцярушаная, ягоныя кніжкі дагэтуль не перавыдадзены.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Чаромхаўскі аповед (2)

Працаўнікі гандлёва-руховай службы ў шасцідзесятыя гады побач старога барака. Злева направа сядзяць тэхнічныя канторшчыкі: Ян Рошчанка, Ян Саласцюк, Мікалай Смык; стаяць ззаду: агент Ільля Ляўчук, наглядчыца кандуктарскай начлежкі Яўгенія Сідарук-Вілім, савецкі агент Янка Карповіч і старшы агент Мікалай Бішчук

З перагрузачнай станцыі Семяноўка перавялі мяне ў Чаромху на штат гандлёвага кладаўшчыка, затым назначылі ў кантору перадачы для выконвання службовых абавязкаў перадатачна-прыёмнага агента. Абавязкам агента было афармлянне гандлёвых дакументаў на перадачу вагонных пасылак у СССР.

Да 1989 года канторы рухова-гандлёвай службы змяшчаліся ў драўляным бараку, размешчаным паралельна да пасажырскіх перонаў. У паўночнай частцы будынка змяшчаліся адміністрацыя з начальствам, начлежная база для кандуктараў, святліца-зала для службовых пасяджэнняў, кантора замежнай гандлёвай пляцоўкі „C. Hartwig”, станцыйныя склады, канцылярыя і кабінет начальніка мытнай службы ды кантора савецкага ЗКУ (апошнюю ў другой палове семідзесятых гадоў перавялі ў новазбудаваны жылы корпус па вуліцы 1 Мая, на процілеглы бок пуці). У паўднёвай частцы барака змяшчаліся канторы гандлёвай службы, вартоўня СОК (службы аховы чыгункі), офісы прафсаюзнай арганізацыі чыгуначнікаў і савецкіх агентаў, якія на дызельнай дрызіне АС1А прыязджалі на працу з Высока-Літоўска.

У змене савецкіх агентаў працавалі чатыры чалавекі: старшы агент (старшы змены, адначасова перакладчык), перакладчык, прыёмны агент і вагоннік. Адпаведна з польскага боку працавала двух таксатараў, старшы агент і трох агентаў. Таксатары займаліся апрацоўкай транзітных дакументаў і налічваннем пошліны за перавозку, а пры экспарце айчынных тавараў у Саюз — размеркаваннем і накіраваннем пасылкі ў таможню для абкладання пошлінай. У абавязкі агента ўваходзіла спісанне ў перадатачна-прыёмныя ведамасці поўнага складу поезда з пералічэннем назвы тавару, колькасці штук, знакаў забеспячэння (пломб на крытых вагонах), ды належнасці за перавоз у транзіце.

Чаромхаўская станцыя па міжнароднай дамове была прызначана для перасылкі транзіту з ГДР у СССР, негабарытнага грузу і вайсковых адправак. Айчынны экспарт быў кіраваны на пагранпераход Семяноўка — Свіслач. Перадача гэтых вагонаў праходзіла за мяжой, у Свіслачы. Затым чаромхаўскія агенты працавалі на двух чыгуначных пераходах: Чаромха — Высока-Літоўск і Семяноўка — Свіслач. На працу ў Свіслачы былі назначаны старшыя агенты Мікалай Бішчук, Уладзімір Саласцюк, Ян Саўчук і, калі не памыляюся, Аляксандар Шчэпанюк з Белавежы. Яны працавалі за мяжою пазменна, кругласутачна, а ў Чаромсе агенты неслі службу па дванаццаць гадзін у суткі.

У семідзесятых гадах Чаромха лічылася вузлавой чыгуначнай станцыяй. Беручы пад увагу два чыгуначныя пагранпераходы, сапернічалі паміж сабою раённыя дырэкцыі ПКП у Седльцах і Беластоку. Кожная дырэкцыя імкнулася чым больш перавезці таварнай масы. А ў Чаромсе работы было хоць адбаўляй. Транзітныя цягнікі не змяшчаліся на станцыі, затым чакалі на пад'язных бакавых пуцях ад Мордаў па Нурэц.

Агентам найлягчэй было перадаваць вайсковыя цягнікі. Задача польскіх агентаў абмяжоўвалася да спісання вагоннай гандлёвай ведамасці, а з рускага боку, да праверкі вагонаў у натуры, г.зн. на пуцях. Затым праштампаванне перадатачна-прыёмнай ведамасці ў мытнай канторы. За вайсковымі перавозамі сачыла ЗКУ. Па дамове савецкай вайсковай камендатуры з чыгуначнай дырэкцыяй вайсковы груз, а перш за ўсё эшалоны з салдатамі і тэхнікай, афармляліся па-за чаргою. А такія інтэнсіўныя перавозы бывалі вясною, калі часці падаваліся на абучэнне, або ў летні сезон, у час уборкі ўраджаю на цалінных землях. Але аб гэтым у наступнай частцы.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Св. Памяці Мікола ПРУСКІ

## 01.01.1928 - 22.01.2014

22 студзеня ў горадзе Гранд-Рапідс (штат Мічыган, ЗША) адышоў у вечнасць вядомы беларускі эмігрант Мікола Прускі, ураджэнец Мікалаеўшчыны (Стаўбцоўшчына, Беларусь), сваяк Якуба Коласа.

Нябожчык быў шырока вядомы як выдавец, філолаг, журналіст, грамадскі і культурны дзеяч, а таксама дабрадзей, які пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь быў ініцыятарам пасылання на Бацькаўшчыну кантэйнераў гуманітарнай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы, а таксама ў дзіцячы шпіталь у Гайнаўцы.

Выдаў дзесяткі беларускіх кніг, у тым ліку разам Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, рэдагаваў у 1960-х гадах часопіс „Беларускі Сьвет”, а ў 1980-х — „Беларускі Дайджэст”.

Пакінуў Мікола ў смутку жонку Веру (родам з Беласточчыны — г. Кляшчэлі), дачок Анну і Софію, унукаў, а таксама многа пляменнікаў і сяброў.

Паховіны адбыліся ў гарадку Гранд-Рапідс, дзе Нябожчык пражываў 40 гадоў.

Сваё жыццё Мікола прысвяціў беларускай незалежніцкай справе, сям'і і грамадскай дзейнасці.

Яго вялікі беларускі патрыятызм быў яркім прыкладам для сяброў і маладога пакалення.

Пра Яго яшчэ будуць пісаць і ўспамінаць даследчыкі беларускай дзейнасці як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі.

Няхай Мічыганская зямля будзе Яму пухам!

Вечная Яму памяць!

Напісала:
Вера Пруская

# 23.03 — 29.03

**(22.03. — 20.04.)** Тыдзень будзе бурны: чакае цябе мора эмоцый, праўда, не заўсёды станоўчых. Вялікая верагоднасць таго, што папросяць цябе сплаціць старыя рахункі. У другой палове тыдня паездкі і вандраванні прынясуць табе адчуванне поспеху і зможаш усталяваць трывалыя адносіны з дзелавымі партнёрамі. Панядзелак: калі да поўдня ў тваім доме будзе разбіта акно, то гэта вельмі нядобры знак, прадвесціць бяду і няшчасце тым, хто жыве ў гэтым доме

**(21.04. — 21.05.)** 27-31.03. будзеш поўны жыцця, энергіі, развінеш свае таленты і выведзеш на простую дарогу фінансавыя справы. Але 28-31.03. не рабі нічога праз сілу. Твае мінулыя перакананні стануць для цябе менш важнымі, знойдзеш сабе новыя мэты. Асабліва цяпер будуць атрымлівацца справы, звязаныя з самаадукацыяй.

**(22.05. — 22.06.)** 23-24.03. магчымыя непаразуменні, дробныя перашкоды. Больш часу аддай адпачынку. Будзеш адважны і моцны (пазбудзешся сумненняў), вельмі паспяховы, засяроджаны. Магчымая аддача (табе) даўгоў ці заробку.

**(23.06. — 23.07.)** 24-28.03. схопіш вецер у ветразі, заляцяць табе ў галаву геніяльныя ідэі і задумы. 23-27.03. пераломіш затрымкі ў мужчынска-дамскіх кантактах. 28-31.03. — час нялёгкіх выбараў і рашэнняў. Але знянацку можаш прастудзіцца; пі вітамін С, еж цытрусы, зялёную гародніну, імбір, адпачывай.

**(24.07. — 23.08.)** Дробны перапом у фінансах, урэшце шэф не паскупіцца. Праблемы ў пачуццях (28-31.03.) могуць стаць пачаткам сур'ёзнага крызісу. Калі ў тваіх планах маецца пераход на новае месца працы, не прымай на гэтым тыдні канчатковых рашэнняў, інакш страціш тое, што маеш, а лепшага так і не знойдзеш.

**(24.08. — 23.09.)** 24-28.03. будзеш дзейнічаць з размахам, энтузіязмам і бравурнасцю. 24-25.03. вельмі пільнуйся, каб не быць кантужаным, не паламацца. Падзеі, якія будуць адбывацца з табою, павінны быць падвергнуты грунтоўнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай усе магчымыя шляхі яе вырашэння і прымі правільнае рашэнне — у корані зменіш сваё становішча.

**(24.09. — 23.10.)** Злыя звычкі, якіх ты не пазбыўся, могуць паказаць кепскія вынікі. Асабліва можа надакучыць пазваночнік. На працы паявяцца шматабяцальныя перспектывы і здзіўляючыя магчымасці, якіх ты раней не прымаў пад увагу. 28-31.03 — менш аптымізму, услухвайся ў думку іншых.

**(24.10. — 22.11.)** Шчасце і дабрабыт, і ў каханні, і ў фінансах. Варушыся, асабліва на дварэ. Знакаміта ў прафесійных справах. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на вельмі важнае для цябе пытанне, зможаш лёгка маніпуляваць іншымі людзьмі, а твой рознабаковы розум і здаровы сэнс дазволяць знайсці правільныя рашэнні ва ўсіх сітуацыях і вырашыць многія праблемы.

**(23.11. — 22.12.)** Уражваючы рэфлекс і рашучасць будуць спрыяць прыняццю важных рашэнняў і адважным прыёмам. Шмат файных нагод для падарожжаў, у якія варта выбрацца не аднаму. Але ж усё табе будзе не хапаць часу!

**(23.12. — 20.01.)** Выкажашся незвычайна рафінаваным густам, уражлівасцю і смакам; варта цяпер выбрацца на пакупкі. Шмат важных змен. Можа, схочацца змяніць табе месца пражывання, працы, кола знаёмых? Навапазнаныя людзі ўзбагацяць тваё жыццё і прынясуць канкрэтныя карысці. Развінуцца твае таленты лячэння!

**(21.01. — 19.02.)** Шукай сяброў — маеш цяпер знайсці іх вельмі табе адданых. Добрая псіхічная форма. Пільнуйся кашалька, бо раптам... „прачнешся з рукою ў гаршку”. Надай больш увагі і часу сваім дамачадцам: не забывай, што менавіта яны з'яўляюцца найбольш важнымі людзьмі ў тваім жыцці. Прыхільнасць тваіх сяброў і знаёмых дапаможа тваім планам ажыццявіцца.

**(20.02. — 21.03.)** Тыдзень з 23.03. да 27.03. не прадказвае асаблівых поспехаў. Не сядай цяпер на дыету. Не стаў спраў рубам. З фінансамі не павінна быць кепска. Згода і гармонія ў адносінах з сябрамі. Будуць шанцы, каб пераканаць і схіліць да тваёй думкі ўсіх тваіх партнёраў і саюзнікаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. блізкаўсходні князь, 2. маладое пакаленне, 3. ганчарнае мастацтва, 4. цар саванны, 5. 3,14, 6. коўкае рэчыва, напрыклад жалеза, 7. ціхая берагі мые, 8. установа прэстыдыжытатара, 9. перамена, 10. грашовыя сродкі, рэсурсы, 11. зведзеныя ў адно цэлае звесткі, матэрыялы, тэксты, 12. муж дачкі, 13. нота або кухонная прыправа, 14. рака ў Інсбруку, 15. між галавою і тулавам, 16. сталіца Азербайджана, 17. рака ў Ужгарадзе, 18. імкненне да задавальнення плоцевых пачуццяў, 19. працэсія, 20. атрута, 21. Барыс, былы расійскі прэзідэнт, 22. аздоба расліны, 23. вадкасць з едкім пахам, якая здабываецца перагонам смалы хвойных дрэў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — кітайская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | 2 | | | | | |
| | 3 | | 4 | | 5 | | | | | 6 | | 7 | |
| | | 8 | | | 9 | | | | | | | | 10 |
| | | | | 11 | | | | 12 | | | | 13 | |
| | | | | | 14 | | 15 | | | 16 | | | |
| | | 17 | 18 | | | | | | | | | | |
| 19 | 20 | | | 21 | | 22 | | | | | | | 23 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Віза, тавар, нос, царква, Бона, Калхіда, Амерыка, серада, шнур, авал.

Рашэнне: **Сонца за воблакам не схаваеш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Прэм’ер з Кузніцы

**Беласточчына, Сакольшчына, Бельшчына як часткі беларускай этнаграфічнай прасторы ў 1918 годзе былі абвешчаны часткай незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтай знакамітай падзеі беларускай гісторыі, на жаль, няма зашмат акцэнтаў, звязаных з нашым рэгіёнам. У пачатку 1918 года землі былой Гродзенскай губерні ад Мінска, дзе вызначаўся лёс беларускай дзяржавы, раздзяляла лінія фронту, якая практычна з 1915 года абмяжоўвала кантакты заходніх частак Беларусі з цэнтральнай і ўсходняй. Значная частка жыхароў-бежанцаў бадзялася па прасторах Расіі. Аднак у стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі вялікую ролю адыграў ураджэнец нашага рэгіёна, мала таго — ён быў яе першым прэм’ер-міністрам, а, згодна з тагачаснай наменклатурай — старшынёй Народнага Сакратарыята Беларусі. Гаворка ідзе пра ўраджэнца мястэчка Кузніца Сакольскага павета Гродзенскай губерні — Язэпа Якаўлевіча Варонку.**


Pavardė Voronko
Vardas Juozas
Gimimo diena arba amžius 1891m. birželio mėn 4 d.


Начальнік Канцэлярыі

**Карта выдачы літоўскага пашпарта Язэпа Варонкі. Захоўваецца ў Архіве Ковенскай Акругі (F66, ap.1, b.4082, 1920m.). Паводле пашпарта: дата народзінаў — 4 чэрвеня 1891 года (памылка) у мястэчку Кузніца Сакольскага павета; узрост — высокі; валасы — чорныя; вочы — цёмныя; твар — падоўжаны; праца — міністр беларускіх спраў; нацыянальнасць — беларус; веравызнанне — праваслаўнае.**

Будучы прэм’ер, рэдактар, грамадскі дзеяч, міністр, паэт нарадзіўся 4 красавіка 1891 года (па старым стылі) у праваслаўнай сям’і. На жаль, пра маладосць славутага земляка сення звестак няшмат, а большасць з іх вядомая толькі з дакументаў, складзеных у пазнейшы час. Адным з такіх дакументаў лічыцца кароткая аўтабіяграфія, складзеная перад літоўскімі ўладамі вясной 1919 года. Паводле яго ных слоў, нарадзіўся ён ва ўніяцкай сям’і, якая здаўна пражывала ў ваколіцах Беластока. Менавіта ў Беластоку скончыў ён рэальную гімназію. Яшчэ падчас навукі ў школе пачаў ён кар’еру журналіста, у 1907 годзе дэбютаваў на старонках варшаўскай расейскамоўнай прэсы.

Пасля вучобы, як вольны слухач, паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, з якога напярэдадні Першай сусветнай вайны быў выключаны з-за няўзносу платы. Пецярбургскі перыяд жыцця Я. Варонкі быў даволі плённым і актыўным. Ён удзельнічаў у шматлікіх студэнцкіх кружках, аднак найбольш плённай была яго ная журналісцкая дзейнасць. Ягонае прозвішча можам знайсці сярод супрацоўнікаў і рэдактараў такіх газет і журналаў як «Воскресная вечерняя газета», «Театральное обозрение», «Столичные вести», ці сярод сяброў Пецярбургскага літаратурнага таварыства. З таго часу паходзяць першыя звесткі пра яго супрацоўніцтва з беларускім рухам, менавіта з рэдакцыяй «Нашай нівы».

У час Першай сусветнай вайны Я. Варонка актыўна ўдзельнічаў у працы пецярбургскіх арганізацый дапамогі пацярпелым ад вайны, а пасля лютаўскай рэвалюцыі актыўна ўключыўся ў палітычныя ініцыятывы. У 1917 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, а з чэрвеня лічыўся сябрам яе Цэнтральнага камітэта. Падчас падзей 1917 года неаднаразова прадстаўляў беларускія арганізацыі на ўсерасійскіх палітычных падзеях — Асобай нарадзе для выпрацоўкі палажэння аб выбарах ва Усерасійскі ўстаноўчы сход; у жніўні быў беларускім прадстаўніком на Дзяржаўнай нарадзе ў Маскве, а з верасня, да разгону бальшавікамі, быў дэпутатам Часовага савета Расійскай Рэспублікі.

Пасля кастрычніка 1917 года Язэп Варонка, як ужо даволі вядомы дзеяч, пераязджае ў Мінск, дзе атрымаў пасаду камісара юстыцыі і ўнутраных спраў Вялікай Беларускай Рады. Актыўна ўключыўся ў арганізацыю Першага ўсебеларускага з’езду які адбыўся ў снежні 1917 года, увайшоў у Раду і Выканаўчы камітэт з’езду. Пасля ўваходу ў Мінск немцаў Выканаўчы камітэт звярнуўся да народа Беларусі і Першай устаўной граматай 21 лютага 1918 года аб’явіў сябе адзінай уладай у Беларусі. Часовым выканаўчым органам стаў створаны ім Народны сакратарыят з Я. Варонкам як старшынёю, які займаў таксама пасаду міністра замежных спраў, а потым да гэтага спісу дайшлі яшчэ ўнутраныя справы. Наступныя ўстаўныя граматы пракламавалі стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, а потым 25 сакавіка, абвясцілі яе незалежнасць. Язэп Варонка, паводле ўсіх звестак, быў адным з галоўных прыхільнікаў незалежнасці, хаця будучыню Беларусі бачыў у федэрацыі вольных народаў Расіі.

Як прадстаўніку сацыялістаў Варонку не ўдалося аб’яднаць усіх палітычных кірункаў. Гэта, як і адсутнасць палітычных ведаў і здольнасцей маладога палітыка былі галоўнай прычынай адхілення яго з функцыі прэм’ер-міністра ў траўні 1918 года. Пасля расколу ў БСГ вясной 1918 года Варонка быў адным з галоўных сяброў Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. Восенню па ягонай ініцыятыве з’явіўся адзіны нумар літаратурна-грамадскага часопіса «Варта», які павінен быў стаць штомесячнікам. Аднак наступленне бальшавікоў на Мінск прымусіла ўлады рэспублікі эвакаявацца са сталіцы. У студзені 1918 года разам з іншымі дзеячамі БНР перабраўся ў Вільню, дзе Віленская беларуская рада дамовілася аб супрацоўніцтве з Літоўскай радай (Тарыбай). У гэты час, згодна з нямецкімі планамі, тэрыторыя Літоўскай дзяржавы мела ахапіць таксама Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі і Белавежскі паветы. Дзякуючы літоўска-беларускай дамове беларусы атрымалі рэальны ўдзел у тварэнні структур улады ў паўднёвай частцы Літвы.

Язэп Варонка 10 снежня 1918 года зноў уступіў на пасаду міністра — гэтым разам беларускіх спраў урада Літоўскай дзяржавы. Гэтую пасаду займаў да траўня 1920 года, кіруючы ведамствам у Вільні, Гродне і Коўне. Ягоная палітычная дзейнасць на пасадзе міністра ацэньваецца даволі адмоўна так літоўскім бокам, які бачыў Варонку як не надта здольнага палітыка, як і беларускім нацыянальным рухам, які ў ягонай асобе бачыў толькі літоўскага дзяржаўнага чыноўніка, кар’ерыста. Хаця цяжка ў дзейнасці міністра знайсці пазітыўныя моманты, у гэты час Варонка даволі актыўна, побач з дзяржаўнай палітычнай працай, працягваў выдавецкую дзейнасць. Ён — аўтар двух брашур: «Беларускае пытанне да часу Версальскай Мірнай Канферэнцыі» (была надрукавана на расійскай і літоўскай мовах) і «Беларускі рух ад 1917 да 1920 году». Сам рэдагаваў журнал «Часопіс Міністэрства беларускіх спраў», арганізаваў у Коўне Таварыства імя Францыска Скарыны.

Пасля адстаўкі з міністэрскага паста Я. Варонка зноў заангажаваўся ў працу ў структурах БНР, якія, на чале з прэм’ерам Вацлавам Ластоўскім з лістапада 1920 года працавалі ў Коўне. З пачатку дваццатых гадоў Варонка з’яўляецца не толькі актыўным дзеячам беларускіх ковенскіх арганізацый. У 1921-1922 гадах быў рэдактарам газеты «Вольная Літва», якая мела амбіцыю быць галоўным расейскамоўным часопісам у краіне. З гэтага часу вядомыя таксама ягоныя паэтычныя творы, якія падпісваў псеўданімам *Юрий Вегов*.

У 1923 годзе тагачасны міністр асветы Урада БНР Варонка з’яджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі з місіяй наладзіць шырокія кантакты з тамтэйшай эміграцыяй і здабыць падтрымку для далейшага існавання БНР. Місія Я. Варонкі была даволі важнай, і як можна меркаваць па тагачасных настроях ковенскага асяроддзя, адзіным шляхам для выратавання фінансаў урада БНР і працягвання змагання за незалежнасць Беларусі. Тым часам палітычная місія Варонкі, як усе іншыя ініцыятывы, мела, прынамсі з перспектывы ковенскіх сяброў, сумны канец — пасля прыбыцця ў ЗША не атрымалі яны ад яго ніякіх звестак.

Сваё месца былы прэм’ер знайшоў у Чыкага, дзе дажыў да 1952 года. На эміграцыі быў рэдактарам першага беларускага часопіса ў ЗША «Белорусская Трибуна — Whiteruthenian Tribune», які выдаваўся ў асноўным на расійскай мове, хаця частка матэрыялаў друкавалася на беларускай ды англійскай. Да канца сваіх гадоў працаваў на Чыкагскай радыёстанцыі рэдактарам расійскіх і беларускіх перадач. Не забыўся таксама пра грамадскую працу. Быў адным з ініцыятараў і заснавальнікаў першай беларускай арганізацыі ў ЗША — Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады, якая была заснавана ў 1941 годзе. Як згодна ацэньваюць суайчыннікі і даследчыкі, у апошнія гады жыцця Варонка аддаліўся ад працы на нацыянальнай ніве і пераправарыўся ў расійска-праваслаўнага, ці нават прасавецкага дзеяча.

Постаць Я. Варонкі пакуль што не дачакалася яшчэ біяграфіі. Перш за ўсё прычына такога становішча ляжыць у складаным, хаця бясспрэчна цікавым, лёсе ўраджэнца Кузніцы. Гэта прымушае даследчыка да працы з матэрыяламі, якія павінны захоўвацца ў некалькіх краінах, прынамсі на двух кантынентах. Па гэтай прычыне асоба першага прэм’ер-міністра Беларусі не толькі малавядомая на радзіме. Пра яе няшмат ведаюць і прафесійныя гісторыкі. Паколькі на сённяшні дзень можам высветліць галоўныя моманты працоўнай кар’еры Варонкі, на жаль, амаль нічога невядома пра ягонае асабістае жыццё. Паводле паказанага тут літоўскага дакумента Язэп Варонка быў жанаты. У гэтым самым фондзе ковенскага архіва захоўваецца аналагічны дакумент, выдадзены для Ганны Варонкавай, народжанай 24 кастрычніка 1890 года ў Вільні, беларускі, каталічкі. Наступныя звесткі пра сямейнае становішча паходзяць з Чыкага. Там у 1932 годзе быў зарэгістраваны ягоны шлюб з народжанай у Польшчы Марыяй Пятроўскай.

Тамаш БЛАШЧАК

ISSN 0546-1960